© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE
US POSTAGE
PAID
ADA, MI
Permit No 47

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 5(29) Май 1996 May Год выд. 4

# ПРА ДЫСКРЫМІНАЦЫЮ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ І ЯЕ НОСЬБІТАЎ У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСІ

*Інфармацыйнае паведамленьне для міжнароднай грамадзкасьці*

Удзельнікі Нацыянальнай навуковай канфэрэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспэкты», праслухаўшы і абмеркаваўшы шматлікія даклады і паведамленьні, лічаць неабходным давесьці да сусьветнай супольнасьці наступную інфармацыю.

Беларусы ўяўляюць сабою гістарычную моўную супольнасьць на сваёй спрадвечнай тэрыторыі, іх спрадвечная этнічная мова — беларуская. Гэта мова засьведчыла багацьце і гнуткасьць, калі ў XIV-XVII стст. была афіцыйнаю і пісьмова-літаратурнаю моваю Вялікага княства Літоўскага — буйной дзяржавы, дзе бальшыню насельніцтва складалі беларусы. З канца XVIII ст. Беларусь, як калёнія Расейскай імпэрыі, цярпела ад палітыкі татальнай русіфікацыі. Абвешчаная ў 1918 г. незалежная Беларуская Народная Рэспубліка праклямавала дзяржаўнасьць беларускае мовы. Але з пачатку 30-х гг. нэаімперскі камуністычны рэжым СССР, куды была ізноў інкарпараваная Беларусь, працягнуў палітыку русіфікацыі. У Беларусі былі фізычна зьнішчаныя сотні тысячаў чалавек, у тым ліку практычна ўсе дзеячы нацыянальна-моўнага адраджэньня.

Тым ня менш, паводле перапісу 1989 г., 80,22% этнічных беларусаў уважалі за сваю родную беларускую мову і яшчэ 9,48% свабодна валодалі ёю як другою.

У 1980-я гг. пачаўся грамадзкі рух за адраджэньне беларускае мовы. Пасьля аднаўленьня незалежнасьці краіны ў 1991 г. вяртаньне беларускай мове яе асноўных функцыяў пайшло шпарчэйшымі тэмпамі. Беларуская мова ў 1990 г. набыла статус дзяржаўнай, што было замацавана Канстытуцыяй 1994 г. У 1994 г. каля 65% першаклясьнікаў вучыліся па-беларуску.

Але незалежная Беларусь засталася аб'ектам геапалітычнае зацікаўленасьці суседняй Расеі. Г. зв. "дактрына Ельцына"(прыняты ўказам «Стратэгічны курс» дачыненьняў Расеі з суседнімі дзяржавамі) утрымлівае шэраг пунктаў, скіраваных на выкарыстаньне расейскай мовы як інструмэнту палітычнай прысутнасьці і палітычнай экспансіі ў краінах СНД, у тым ліку ў Беларусі.

Адкрыта зарыентаваныя на Расею палітычныя сілы, якія прыйшлі ў Беларусі да ўлады ў 1994 г., правялі рэфэрэндум аб статусе моваў, адносная бальшыня ўдзельнікаў якога (53%) выказалася за "роўны статус" беларускай і расейскай моваў у краіне. Рэфэрэндум адбываўся ў антыдэмакратычных умовах, з абмежаваньнямі на свабоду слова, у парушэньне Канстытуцыі, якая забараняе выносіць падобныя пытаньні на рэфэрэндумы. Маніпуляцыя масавай сьвядомасьцю выкарыстала сфармаваныя за стагодзьдзі плянавага лінгвацыду моўныя забабоны, а вынікі зьнішчэньня мэханізму моўнага самазахаваньня былі пададзеныя ўладамі як «воля народу». Пратэст грамадзтва супраць новай хвалі лінгвацыду кіраўніцтва краіны імкнецца падавіць антыдэмакратычнымі захадамі.



Спадарыня Івонка СУРВІЛЛА — нястомная працаўніца на ніве гуманітарнае дапамогі Беларусі, грамадзкая і культурная дзеячка, вялікая патрыётка свайго народу.

**Дарагая Івонка!** Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.



Спадар Браніслаў ДАНІЛОВІЧ — дзейны і заслужаны грамадзкі працаўнік, нястомны распаўсюджвальнік беларускае прэсы, незалежнік і гарачы беларускі патрыёт.

**Дарагі Браніслаў!** Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.

Пасьля рэфэрэндуму ўлады адміністрацыйным чынам, запалохваючы бацькоў, пачалі зачыняць беларускія школы і клясы, пераводзіць дзяржаўныя сродкі інфармацыі на расейскую мову і г.д. Цяпер беларускамоўнае навучаньне адбываецца менш як у 25% першых клясаў. У абсалютнай бальшыні ВНУ выкладаньне адбываецца па-расейску, што пазбаўляе выпускнікоў беларускіх сярэдніх школ права на бесьперапынную адукацыю на роднай мове. Беларускамоўныя грамадзяне краіны ня маюць магчымасьці гарантаваць сваім дзецям выхаваньне ў дашкольных установах, навучаньне ў сяэдніх навучальных установах на беларускай мове. Сучасная адукацыйная сыстэма Беларусі не спрыяе разьвіцьцю здольнасьці да моўнага і культурнага самавыяўленьня беларускай моўнай супольнасьці, а таксама захаваньню і ўзбагачэньню беларускай мовы.

Маючы фармальны статус афіцыйнай, беларуская мова практычна не выкарыстоўваецца ў бягучым справаводзтве дзяржаўных установаў. Беларускамоўны індывід пазбаўлены магчымасьці актыўна і пасыўна выкарыстоўваць беларускую мову ў дачыненьнях з органамі дзяржаўнай улады і дзяржаўнага кіраваньня і з мясцовай адміністрацыяй (у Беларусі адсутнічае сыстэма мясцовага самакіраваньня). Беларускія імёны і тапонімы ў дакумэнтах запісваюцца паводле расейскай традыцыі. Інфармацыйная прастора краіны пераважна расейскамоўная. Беларускамоўнае дубляваньне або забесьпячэньне субтытрамі тэлепраграмаў на іншых мовах прыпынена.

Удзельнікі Нацыянальнай кафэрэнцыі канстатавалі:

У Беларусі парушана правы карэннай этнічнай і моўнай супольнасьці на выяўленьне і разьвіцьцё сваёй культуры і мовы. Палітыка суседняй дзяржавы, якая навязвае Беларусі свае геапалітычныя ўплывы, выяўляецца ў моўнай экспансіі, якая вядзе да непасрэднага навязваньня чужой мовы. Моўная палітыка ў сучаснай Беларусі служыць інструмэнтам расейскага неакаляніялізму.

(Гл. далей на стр. 4-ай)

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пpускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# DEMOCRATS of WEST C.I.S. and POLAND APPEAL to UNITE THEIR COUNTRIES to COUNTER-BALANCE RUSSIA

Against the backdrop of the Belarusian-Russian integration, the Third Congress of the Democratic Parties League of Inter-Sea Countries (West CIS and Poland) of the Baltic-Black-Seas region was held in Miensk between March 22-23, which discussed an alternative version of geo-political division in the region. The Congress was attended by representatives of democratic parties of Lithuania, Latvia, Belarus, and Poland. Lithuania was represented by the parties Tevynes Sajunga and Tautininku Sajunga: Belarus — by the Belarusian Popular Front, the United Civil Party and others.

The leitmotif of all speeches was the appeal to unite Inter-Sea countries to counter-balance Russia. It was noted at the Congress that the modern Russian policy towards these countries is characterized by the strife to gain political, economical, and military domination over this region. Russia's attempts to regain its former influence are directed onto on the Baltics and Poland (the Koningsberg /Kaliningrad/ problem and attempts not to let these countries in NATO), the Ukraine (economic blackmail and provoking inter-ethnical problems), and the Balkans (playing the ethnic and confessional cards).

In the opinion of the Congress participants, situation in Belarus is an example of the results of such policy, this country being a constant aim of Russian imperialist forces. There is a danger of incorporating Belarus into Russia both *de jure* and *de facto*, which would change the political situation in Eastern Europe and the whole continent dramatically, and result in tension increase and similar threat to neighbour countries.

Characterizing the overall political situation in Eastern Europe, the Congress participants noted that the increasing aggressiveness of Russia and explosive state of affairs in the region force Inter-Sea countries seek support and guarantees of security in the West. «In these condition, cooperation with NATO is the only guarantee of retaining integrity and sovereignty» the summarizing resolution of the Congress reads. In this situation, the Democratic Parties League finds itself obliged to influence the governments in order to create Commonwealth of the Inter-Sea countries as a guarantor of their independence and stability in Europe.

Talking concrete, the Congress proposed to create common market, operating at three levels: the market of goods, labour, and capital. Special attention was drawn to creating the conditions for energy safety of these countries. In particular, creating a common oil and gas reserve was discussed.

Besides international political issues, the participants discussed the domestic situation in Belarus, noting that violations of human rights works for establishing a totalitarian regime in the country and threatens European democracy.

## New passports this Spring

Passport authorities will begin issuing new Belarusian passports in March or April, according to information from the Ministry of the Interior. The passports will bear new state symbols, approved after the referendum in May 1995, and be issued simultaneously to residents of Minsk and other regions. Today, the population is using 100,000 passports with pre-referendum symbols and USSR identification cards.

## Old passports open for sale?

The head of the passport authority of Tsentralny District in Mogilev has suggested in the local press that passports bearing the pre-referendum state symbols of Belarus be sold to collectors in order to reimburse the "hundreds of thousands of dollars" of taxpayers' money spent on their issue.

## Tanks will serve a noble cause

Belarus plans to sell 100 of its tanks, subject to destruction under the CFE treaty, to Hungary. According to the Minister of Defence, Leonid Maltsev, the relevant agreements will be signed on April 9 during the visit to Minsk of the Hungarian Minister of Defence.

# A Favorite Battleground for Invaders Now Finds Freedom Tough to Bear

*Struggling Belarus hopes aid will accompany union with Moscow*

**By Peter Ford**
Staff writer of The Christian Science Monitor

**MINSK, BELARUS**

BLIGHTED by war, dictatorship, and radioactive fall-out, the country of Belarus has often seemed to its people to be doomed.

Now, warn leaders of the nationalist opposition, President Alexander Lukashenko is condemning his infant state to a new era of Russian tutelage, and stifling their hopes for an independent future as a European nation.

The most immediate target of their anger is the treaty deepening economic ties between Minsk and Moscow that Mr. Lukashenko signed last week amid much pomp at a Kremlin ceremony.

But more broadly, the fear here among independent businessmen, politicians, journalists and foreign observers is that the president – who is amassing dictatorial powers in a state reminiscent of the Soviet Union – is looking so hard to the East that the view to the West will be blocked.

Vasil Bykov, a prominent Belarussian novelist who has been called "the conscience of the nation," compares the four brief years of his country's independence since the collapse of the Soviet Union to "a moment when individual freedom and state freedom emerged on the horizon, waved to us, and then disappeared again."

Concerns are growing that Lukashenko's economic vision will entail a high political price.

"Of course it is easier for Belarus to reestablish trade ties with former partners than to set up new ones," says Peter Byrne, head of the local branch of the Open Society Foundation, set up by American philanthropist George Soros. "But they are doing that at the expense of human rights, public debate, and restructuring their economy."

Lukashenko's economic plan is based on re-creating the market that Belarus used to serve. His first step has been to seek economic integration with Russia. But as a former collective farm manager who candidly declares that he thinks the Soviet Union worked well, he has put a heavy political spin on his integration efforts.

### Troubling the IMF

At the economic level, Belarus's real problem is not as much the loss of its old markets, says one Western observer, as its failure to introduce serious free market reforms.

Eighty percent of production is still in state hands, output has fallen every year since independence – last year by 8 percent – the average monthly wage is barely over $60, and government ploys to prop up the currency have both throttled exports and prompted the International Monetary Fund to suspend a $275 million loan.

Using his almost total control over the media, Lukashenko has managed to stifle most public criticism of his economic record, and some observers see his bid to integrate Belarus with its giant neighbor mainly as an attention grabber.

"Most of our president's moves toward Moscow are an attempt to distract attention from the disastrous effects of his economic policy," says Alexander Potupa, vice president of the Belarussian Union of Entrepreneurs.

There is no denying, however, that closer ties with Moscow are popular. The idea of tighter economic links won overwhelming approval in a referendum here last year. Partly, independent analysts say, this is because an aging population is nostalgic for the happier days of its youth, when the Soviet republic of Byelorussia enjoyed the highest standard of living in the Eastern bloc.

At the same time, nationalist sentiment is probably lower here than in any other former Soviet republic, as if the country's calamitous history had knocked the stuffing out of its inhabitants.

Belarussians have to look back more than 200 years for an experience of even approximate sovereignty, and they have to strain to discern their identity in the medieval Grand Duchy of Lithuania.

Spending two centuries as the Westernmost outpost of the Russian Empire brought Russian Orthodoxy, Russian habits and language, and waves of armies to and fro that left destruction in their wake. Napoleon's Army marched through Belarus on its way to Moscow, and on its way back; the Eastern front in World War I was dug in trenches across the Belarussian plains; a quarter of Byelorussia's population – including most of its Jews – perished during World War II.

Seventy years of Communist rule from Moscow was capped by the Chernobyl disaster, that contaminated one-fifth of Belarus with radioactivity. "In 200 years, national consciousness can be beaten out of a people, as it was with us," acknowledges Ihar Hermianchuk, editor of the nationalist paper Svabada.

### Overbearing nationalism

Nationalist feelings flickered to life after the collapse of the Soviet Union in 1991, but were smothered by inflexible nationalist movements, which, for example, insisted against popular sentiment on the exclusive use of Belarussian in schools.

Riding a swell of pro-Russian feeling, Lukashenko has launched a campaign against Belarussian symbols – rolling back the use of the language, and reverting to a Soviet-style flag. Demonstrators waving the red and white flag that Belarus adopted at independence have been clubbed by policemen.

With the tide of official and popular feeling running hard toward the East, and the country's old imperial master, Mr. Hermianchuk's plaintive insistence that "we see ourselves as Europeans – all our history and culture is European," sounds like a forlorn whistle in the wind.

And as Lukashenko dismantles democratic freedoms, it is uncertain how long dissenting voices like Hermianchuk's will be allowed to cry even in the wilderness: His paper is banned from the state printing house in Minsk, and must print in Lithuania.

Even the novelist Bykov, certain as he is that "our future is only in the West ... to build our home on the foundations of freedom and democracy," is unsure when that future might dawn.

"I call myself a pessimist," he says, with a grim smile. "I always want life to prove me wrong. But ... life only confirms my feelings."

## Integration causes anxiety in European media

**Commenting on the forthcoming agreement on further integration between Belarus and Russia, the European media admit that the forthcoming union of the two Slavonic states will definitely affect the balance of power in Europe. The press in the neighbouring Poland expresses concerns about the prospects of sharing a common border with a more powerful neighbour such as Russia. The media also remind the public that the borders within Europe changed too often in the past without Poland's consent. In the meantime the German Chancellor, Helmut Kohl, has spoken in favour of postponing the admission of new countries to NATO until the elections in Russia and the United States.**

## Liberals ask Yeltsin not to sign the integration agreement

Representatives of 24 liberal parties in Belarus have sent an open letter to the Russian President Boris Yeltsin calling on him to "*use his political wisdom and far-sightedness*" to avoid signing the "unconstitutional and anti-national" agreement on further integration between Belarus and Russia. "Belarus' democratic parties reserve the right to all available means to defend the country's independence and sovereignty," reads the letter. The authors of the document, the Belarusian Popular Front, the United Civil Party, the Independent Unions, and other organisations, did not accept Boris Yeltsin's earlier assurances that the agreement will not lead to the loss of sovereignty and independence by any of the two states.

## ЛУКАШЭНКА ЗАГАДАЎ ПАЛІЧЫЦЬ НАРОД

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ аб правядзеньні ў 1999 годзе перапісу насельніцтва Рэспублікі Беларусь. Перапіс будзе праводзіцца па стану на люты 1999 году з 16 па 23 гэтага месяца сьпецыяльна падрыхтаваным персаналам. Між іншым, вузкавокія японцы карыстаюцца для гэтай мэты кампутарамі.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Bełaruś in Winter

(c)1996 by NATIONAL REVIEW, Inc., Reprinted by permission.

RADEK SIKORSKI

MINSK

SCIENTISTS have recently established the theoretical possibility of time travel, and you don't have to be an astrophysicist to know that they are right. A slow train from Warsaw to Minsk, the capital of Belarus, will do. You board in bustling, neo-capitalist Warsaw in the mid 1990s and you disembark in Brezhnev's Soviet Union in the mid 1970s. Comrade Lenin still beckons from statues, a bronze Felix Dzerzhinsky still faces the KGB headquarters, red stars still adorn the caps of militiamen and soldiers. Switch on the television, and Communist Party hacks will harangue you for hours. For those who miss the good old days of the Cold War, this is the perfect destination for a nostalgia tour.

In Belarus the dream of Soviet social engineers, the breeding of Soviet Man, succeeded. Soviet Man was supposed to be hard-working, ahistorical, fiercely devoted to the class struggle, and, whatever his nationality, Russian-speaking. I encountered one specimen on a collective farm outside of Minsk. His face was unshaven and tired of toil and vodka. Beneath his flat forehead, characteristic of the species, his eyes were dull and apprehensive. "Will you vote in the parliamentary elections?" I asked.

"Of course," he replied emphatically. "You have to support authority."

I caught sight of another the following day, coming out of a voting station. He was middle-aged, in a fake fur black coat. "How did you vote?" I enquired.

"For the Communists, naturally."

"Why?"

"Because the Communists will take all those democrats in hand and bring back order," he thundered. "Without order, there is no prosperity, and without prosperity, there is no culture." Soviet Man is far from extinct.

In fact, the most Soviet of Belarus's Soviet Men is the president himself, Alexander Lukashenko, a former collective-farm manager. His public persona is that of a mad peasant crossed with Colonel Qaddafi: ranting, unpredictable, self-contradictory. He had recently issued a decree stating that Soviet-era history textbooks should be brought back into use in schools. Belarusian children would no longer have their minds poisoned with such slanders as the history of the purges, or the 1930s man-made famine, and could instead exult in the miracles of five-year plans. When it transpired that the old textbooks had been trashed and the children would be getting a glimpse of the truth for a little longer, Lukashenko denied ever signing such an order.

Lukashenko's oft-repeated ambition is to consign the country's four-year-old independence to oblivion. His big idea has been to unite his country with Russia. The ostensible reason is that the country has few natural resources, so it might be advantageous to acquire raw materials and energy at subsidized, internal Russian prices. The real agenda is that in such a neo-Soviet Union, it would make good PR sense to appoint a non-Russian president, so as to deflect charges of Russian imperialism. Who better than a man who paid his dues with his own country's independence? Unfortunately, Lukashenko's courtship of Moscow has so far been unrequited. Even Vladimir Zhirinovsky, not exactly an opponent of Soviet restoration, has dismissed him as "a goatherd."

*Mr. Sikorski is NR's roving correspondent. He observed the Belorusian parliamentary elections as a guest of the British Helsinki Human Rights Group.*

Much as in the European Community, a customs union with Russia was to lead to a currency union, but, again, Moscow balked. Belarus is even poorer than Russia, and its market reforms have barely started. A currency union would have amounted to a never-ending Russian subsidy to a bankrupt enterprise. After much soul-searching, Russia refused to pay the price. This decision, or rather lack of it, may prove to be momentous. If it means that the Russian establishment has at long last learned to count money, and is no longer willing to sacrifice Russia's prospects for the sake of imperial illusions, then Russia's neighbors should not be the only ones to rejoice.

Meanwhile, the Belarusian economy is in free fall: most enterprises are working a curtailed week; the backlog of unpaid wages fluctuates between three and six months; the average pension suffices for little more than bread and salt; hard-currency reserves are running out. Reformist governments in Central Europe may have suffered the pain of economic adjustment, but those countries have now been rewarded with growth. Belarus has yet to find out the price of not carrying out reform. When the inevitable day of reckoning arrives for Belarus the recession that usually accompanies structural adjustment will begin from a much lower base.

For the moment, Lukashenko's control still holds, helped by the results of the elections I observed. They were not rigged, not exactly. It is just that the spending limit on the campaign was $50 per candidate, not enough even to photocopy leaflets with one's manifesto to hand to each voter in the constituency. Opposition candidates were virtually barred from the mass media, which remain largely government-owned. As for the "independent" candidates, on closer inspection many proved to be representatives of the president's own power structures. In the military garrison which I visited as an observer, where 100 per cent of registered voters had already gone to the polls by 2 P.M., the candidate turned out to be, quite by accident, a colonel from the divisional staff. I was not surprised that the final count gave no seats to the opposition Belarusian National Front.

But pushing the opposition out of the moderating ambience of parliament, like banning historic national symbols, may prove to be a mistake in the long run. The Belarusian economy is already so bad that even the official, Soviet-era trade unions, which had for years been perfectly happy to act as transmission belts from the Party to the masses, are beginning to get fidgety. They have recently forced the government to increase the minimum wage and promise to pay salaries more promptly. Since the government is unlikely to be able to fulfill its promises, their demands will no doubt escalate.

Does all this mean that the West should write Belarus off as a basket case? Quite the contrary. First, while Belarusian national identity may have been badly mauled by decades of Russification and Sovietization, it is reviving. Belarusian may not be widely spoken in the streets, but hundreds of thousands of people pay a premium to read non-government Belarusian newspapers, which have to be printed in Lithuania and arrive late. My fellow Western observers were struck by how different Belarusians were from most Russians they had met. Politeness seems to be a national characteristic. And with the Belarusian Orthodox Church now also developing a mind of its own, the building blocks of national identity are coming into place.

Second, independent Belarus is a good litmus test of Russian behavior and a potential buffer, if Russia were to go nasty. The key country in the region is of course Ukraine, with its 50 million people (Belarus has 10 million) and a serious army. Nevertheless, whoever wanted to start rebuilding the empire would first have to consolidate control over Minsk. Resistance in Belarus could scotch the project before more harm was done.

Third, strengthening Belarusian independence would be good for reformers, both in Belarus, and in Russia. Russia does not need another millstone around its neck, and Belarus, if made to swim on its own, might well begin to make it. If Belarus's government ceased to pursue suicidal policies, the country might at last begin to take advantage of its position astride highways and pipelines between Russia and the West.

The West should adopt a dual strategy. Despite Moscow's rebuffs, President Lukashenko still seems hell-bent on acting out the role of the last of the Soviets, but there are already whispers of dissatisfaction in his entourage. The customs union with Russia, for example, far from helping Belarus, stokes up inflation. Contrary to expectations, Russian brother Slavs charge Belarus almost the full world price for oil and energy. Given Lukashenko's unpredictability, I would not put it past him to appear one day on national television and declare that sidling up to Russia had been an elaborate hoax, that he has in fact been a fierce Belarusian patriot all along, and that Belarusian independence is a sacred cause after all. The West should encourage such a tendency by periodically reaffirming that once reform begins, the usual credits and trade concessions will flow.

At the same time, we must not desert Belarus's patriots and democrats, men like Zenon Pozniak (who publicized the grave of 300,000 of Communism's victims at Kurpaty) or Adam Maldhis (who helped to preserve the Belarusian language even at the height of Khrushchev's persecutions). The resurgence of former Communists all over Central and Eastern Europe makes them look hopeless, but Sakharov, Walesa, and Havel all once seemed more so. Justice and truth are not on the side of the old Party hacks, however much money they now spend on laundering themselves into respectability. Neither is biology. Eventually, a new generation will come to rule Belarus. You can already see it in the few Minsk nightclubs. Like the Nineties generation the world over, it is English-speaking and Internet-connected, and would rather talk business than politics. It will not accept the likes of Lukashenko forever. □

Валянцін ТАРАС

# Калі Чалавек не Здаецца — Чалавека Зьнішчаюць...

"КРУГ"

## ГУМАНІСТ

Каля вёскі Нелюбы, што недзе ў Валожынскім раёне (калі я не памыляюся праз столькі год), у сакавіку 1944 года загінулі двое партызан з нашага атрада. Нарваліся на паліцэйскую засаду, калі ішлі ў вёску, да аднаго дзядзькі, у якога пакінулі сваіх коней. Нехта падказаў паліцаям, што партызаны абавязкова прыйдуць за коньмі. І паколькі той дзядзька лічыўся абсалютна сваім чалавекам, то наш начальнік штаба атрада, П.Б-каў (прозвішча не называю, бо ў яго засталіся дзеці і ўнукі, іх і шкадую – не яго) вырашыў, кіруючыся класавай свядомасцю, што паліцаяў навёў стараста.

Памятаю, што прозвішча старасты было Нелюб, як і ў многіх у той вёсцы. Начальнік штаба правёў допыт гэтага чалавека ў ягонай жа хаце, у прысутнасці жонкі і дзяцей. Стараста рашуча адмаўляў сваю віну, бажыўся, кляўся, што ніякіх паліцаяў ён не наводзіў. А Б-каў толькі наліваўся крывёю ад злосці, ад таго, што такім упартым аказаўся гэты класавы вораг. Памятую, як адна за дачок Нелюба, відаць, старэйшая, прашаптала матцы: "Застрэліць тату гэты гарбаносы..." (Я, хлапчанё-партызан, быў побач, усё чуў.)

Начальнік штаба загадаў Нелюбу выйсці на ганак, і там, на ганку, застрэліў яго трыма стрэламі з нагана. У патыліцу. Чалавек паваліўся, нават не войкнуўшы. І ніхто не войкнуў, не закрычаў -- ні хтонебудзь з радні, ні аднавяскоўцы, якія невялічкім натоўпам стаялі непадалёк ад ганку. А начальнік штаба загадаў ардзінарцу падвесці яму каня, ускочыў у сядло, паправіў кабур нагана, шапку, і прыўзняўшыся на страмёнах, крыкнуў людзям: "Жители, закопать! И позаботьтесь о детях. Дети не виноваты!"

І паскакаў па вясковай вуліцы галопам.

## ГЭТА НАШЫ ОРГАНЫ!

У жніўні 1968-га са мной праводзілі "прафілактычную размову" у КДБ. Супрацоўнік, да якога мяне прывялі, быў далікатны. Голас не павышаў, не пагражаў, цікавіўся, над чым я працую, колькі зарабляю, якая ў мяне сям'я. Ён, бачыце, не ведаў, якая ў мяне сям'я, не ведаў нават, дзе я працую!

Вядома, цікавіла яго зусім іншае. А менавіта тое, хто даў мне для прачытання пісьмо Аляксандра Салжаніцына да ўсіх пісьменнікаў, хто яго размножыў на машынцы, што я магу сказаць пра таго-та і таго-та. І хоць мяне вучылі, той жа Рыгор Бярозкін, у размовы з супрацоўнікамі КДБ не ўвязвацца, ніякай ініцыятывы не праяўляць, а проста слухаць і адказваць альбо не адказваць на пытанні, у залежнасці ад таго, чаго яны тычацца, я не вытрымаў і спытаў: "А чаму вы кажаце – паклёпніцкія? Што ў іх паклёпніцкага? Хіба на Лубянцы, у сталінскіх лагерах, не катавалі людзей, не здзекваліся з іх? Хіба мільёны не былі асуджаны несправядліва? Вы ж самі гэта прызналі на XX з'ездзе КПСС!"

І што мне адказаў той кадэбіст? Ён вылупіў вочы і амаль малітоўна, урачыста сказаў: "Але ж гэта былі нашы савецкія органы! Як можна крыўдзіцца на іх, калі вы савецкі чалавек? Вам павінна быць балюча за іх! Але ганіць іх нельга, як нельга ганіць бацьку, калі ён нават і несправядліва дасць вам па сраццы. Бо для вашага ж дабра ў любым выпадку! А Салжаніцын ненавідзіць! І вы, як мне здаецца, ненавідзіце. За што?!"

Слухаючы гэту дзіўную праніклёную тыраду, я згадаў эпізод з нейкай дакументальнай кніжкі пра гітлераўскія лагеры смерці, расповяд пра тое, як дзяўчына-яўрэйка, праходзячы селекцыю, выхапіла з рук эсэсаўца, які стаяў побач з ёй, пісталет і стрэліла яму ў жывот. Той схапіўся за рану і з вялікім здзіўленнем спытаў: "За што? Бог мой, за што?!" Ведаючы, што іду на рызыку, я ўсё ж пераказаў гэты эпізод майму кадэбэшніку. І што? Ён недаўменна пацісnуў плячыма: "Пры чым тут нямецкія лагеры смерці? І яўрэйка нейкая... Я вас не разумею!"

Думаю, што нічога ён не зразумеў і па сённяшні дзень.

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



## Пра дыскрымінацыю...

(працяг са стр. 1-ае)

Дыскрымінацыя грамадзянаў Беларусі карэннай нацыянальнасьці паводле мовы супярэчыць палажэньням наступных міжнародна-праўных дакумэнтаў:

— Усеагульнай дэклярацыі правоў чалавека 1948 г. (арт. 2: «...кожны можа карыстацца ўсімі правамі і ўсімі свабодамі... незалежна ад расавай прыналежнасьці, колеру скуры, полу, мовы, веравызнаньня, палітычнай ці кожнай іншай прыхільнасьці, нацыянальнага ці сацыяльнага паходжаньня, матэрыяльнага становішча, нараджэньня ці якіх-бы там ні было іншых умоваў»);

— Міжнароднага Пакту грамадзянскіх і палітычных правоў ад 19 сьнежня 1996 г. (арт. 26, 27 і прэамбула: «...чалавек ня можа быць свабодны, калі яму не ствараюць умоваў, якія дазваляюць яму карыстацца яго грамадзянскімі і палітычнымі, а таксама эканамічнымі, сацыяльнымі і культурнымі правамі»);

— Міжнароднага Пакту эканамічных, сацыяльных і культурных правоў ад 19 сьнежня 1996 г. і інш.

Але беларуская моўная супольнасьць і кожны беларускамоўны індывід мае натуральнае права на абарону сваёй мовы ад лінгвацыду, ад звужэньня функцыяў, выкліканага экстралінгвістычнымі чыньнікамі. Беларуская моўная супольнасьць мае права ахоўваць сваю моўную і культурную прастору ад пабочнага ўмяшаньня і прымусу і спадзяецца на салідарнасьць міжнароднага супольніцтва ў гэтай сваёй справядлівай барацьбе.

## *БЕЛАРУСКІ Хельсінскі Камітэт*

**Міжнародны Хельсінкскі рух узнік пасля Еўрапейскай канферэнцыі ў Хельсінкі (1975г.) і ахоплівае ўсе кантыненты. Яго мэта – бараніць правы чалавека.**

**Недзяржаўная рэспубліканская арганізацыя па абароне правоў чалавека – Беларускі Хельсінкскі Камітэт – зарэгістравана ў лістападзе 1995 года. У яе складзе юрысты, псіхолагі, журналісты, палітолагі, пісьменнікі, вайскоўцы – звыш 50 чалавек.**

**Пры БХК дзейнічаюць 10 камісій: свабоды слова і друку (узначальвае К. Шэрман), па праблемах ваеннаслужачых (А. Сакалоў), пенітэнцыарная (В. Філіпаў), свабоды веравызнаньня (Ю. Быкаў), палітычных рэпрэсій (В. Вяргей), лінгвістычная (І. Саверчанка), па пытаннях працоўнага права (А. Хількевіч), па правах дзяцей (Н. Грыгор'ева), па правах жанчын (Н. Стужынская), палітычных і грамадзянскіх правоў (Л. Баршчэўскі).**

**Старшыня Назіральнага сойму БХК Васіль Быкаў. Старшыня Рады БХК Таццяна Працька.**

***Тэлефон БХК: (0172) 68 55 55.***

## СПЫНІЦЕ ДУРНЫЯ ГУЛЬНІ!

*Спадар Лукашэнка! Вы кантралюеце выдачу ліцэнзій на экспарт нафтапрадуктаў, драўніны, мінеральных угнаеньняў, чорных, каляровых і каштоўных металаў і іншых тавараў (указ N 191 ад 17.05.95 г.). Вы кантралюеце выдачу буйных крэдытаў (звыш 41 тыс. USD). Хто кантралюе Вас?*

*Вы забралі пад свой кантроль сотні лепшых будынкаў на тэрыторыі Беларусі і здаеце іх у арэнду (апошні такі ўказ N 9 ад 04.01.96 г.)*

*22 лістапада 1995 году Вы дазволілі без тарыфаў і падаткаў фірме «Торгэкспо» увезьці тавараў на суму 500 млн. долараў, што прывяло да бюджэтных страт прыкладна на 250 млн. долараў ЗША.*

*Вы аддалі большасьць акцый Мазырскага і Наваполацкага нафтаперапрацоўчых заводаў расейскім прыватным кампаніям (студзень 1996 г.). За якія такія ляскі?*

*Вы ўтрымліваеце расейскія ваенныя базы на Беларусі, за што Расея нічога ня плаціць (можа што і плаціць, толькі не ў бюджэт).*

*Вы не бярэце плату за транзіт з Расеі нафты, газа, грузаў і пасажыраў па чыгунцы, аўтадарогах і паветры (можа што і плаціцца, толькі не ў бюджэт).*

*Вы пачалі манапалізацыю гандля алкаголем і тытунём, што прынясе Вам вялізныя даходы.*

*Вы стварылі цэлую армію (1800 чалавек) сваіх целаахоўнікаў, далі ім кватэры і вялікую зарплату.*

*Вы манапалізуеце банкаўскую сістэму і ўжо, напэўна, сталі міліярдэрам (доларавым).*

*Можна нагадаць Вам таксама розныя «дробязі»:*

*- самастрэл у Лёзне, сьцюардэсу;*

*- хлусьню, што Вы галасавалі супраць Белавежскіх пагадненьняў;*

*- утойваньне, што Вы працавалі намесьнікам начальніка турмы;*

*- хлусьню наконт «карупцыянераў» Шушкевіча, Захаранкі, Багданкевіча;*

*- напад на дэпутатаў Вярхоўнага Савету і г.д.*

*Вы ня выканалі ніводнага свайго перадвыбарчага абяцаньня:*

*- запусьціць заводы;*

*- пасадзіць карупцыянераў;*

*- кампенсаваць уклады;*

*- спыніць інфляцыю і іншыя.*

*Ад Вас пайшлі, ці Вы іх самі выгналі, сумленныя і кваліфікаваныя людзі, якія Вас прывялі да ўлады.*

*Вы парушылі Канстытуцыю і сваю клятву, калі ўвялі на Беларусі цэнзуру.*

*Вы блакавалі выбары ў Вярхоўны Савет.*

*Вы ганьбіце і пагражаеце Канстытуцыйнаму Суду.*

*Вы імкнецеся аддаць Беларусь пад уладу Масквы.*

*Ваша бязьдзеяньне і бязглуздасьць у эканоміцы відавочныя.*

*Вы не даеце людзям хоць нешта зарабіць у прыватным сектары эканомікі.*

*Вы душыце ўсіх падаткамі, паборамі і кантролямі!*

*Людзі за часы Вашага кіраваньня значна зьбяднелі.*

*Вы нават пахвалілі Гітлера і пагражаеце пакінуць ядзерную зброю на тэрыторыі Беларусі.*

*Вы пачалі дурныя гульні з сімволікай і мовай.*

*І ўсё гэта за паўтара года.*

*Вы НІЧОГА ДОБРАГА не зрабілі для людзей, якія Вас абралі. Сколькі яшчэ дурнот і злачынстваў Вы зробіце за астатнія 3,5 года?*

**Сяргей ДАМБРОЎСКІ, г.Менск.**

«Пагоня»

*Дарагія і Паважаныя Суродзічы!!!*

**Не забывайце, што наша газэта выдаецца дзякуючы Вашай дапамозе. Дапамагайце-ж нашай незалежнай беларускай газэце.**

# Музей будуецца

**Спаткаўшыся з *Канстанцінам Майсенем* не можна не гаварыць пра Музей. Тым больш у самім Беларускім музеі ў Гайнаўцы. Ды там мала гаварыць, а трэба абавязкова агледзець яго, прайсціся са спадаром Канстанцінам доўгімі калідорамі, абшырнымі холамі, убачыць скончаныя залы і тыя, якія яшчэ ў пабудове.**

— Калі хтосьці загляне сюды раз на нейкі час, — тлумачыць гаспадар, — яму можа здацца, што ў нас няма ніякага зруху дапераду, што мы ўсё на тым самым этапе пабудовы. Толькі той, хто дзень і ноч жыве пабудовай, умее ўбачыць кожны новы элемент, дацаніць зробленае апошнім часам. У нас, хачу зазначыць, работа не спыняецца ні на хвіліну, калі немагчыма весці будаўнічыя працы звонку, мы праводзім аддзелачныя працы ўсярэдзіне памяшканняў. Хадзем, пакажам вам, як мы рыхтуем будучую кавярню і бар.

Сходзім у падвал, дзе завіхаюцца сталяры, інжынер Ян Карпюк і Раман Скепка. Яны запраектавалі і самі робяць дубовыя столікі і крэслы. Кавярня будзе аформлена ў дубе. Ужо галоўны ўваход мае знадворку драўляны дашок. Усярэдзіне яшчэ паставіць буфет і можна будзе прымаць гасцей.

Унізе ёсць яшчэ сталярня, дзе ўласнымі сродкамі выконваецца патрэбнае абсталяванне. Працаўнікі музея самі апрацавалі і метад асушкі прывезенай з Беларусі дубіны.

Затым прагуляліся мы па закрытых зімой памяшканнях, паглядзелі экспанаты на складзе, якія патрабуюць неадкладнай кансервацыі. Спадар Майсеня гаварыў пра планы на будучыню і вялікія магчымасці, якія дае такі аграмадны і архітэктурна цікавы аб'ект. Размову ў кабінеце старшыні, за чаем, распачалі мы ад лютаўскага трохбаковага — беластоцкі ваявода, грамадскі камітэт пабудовы Беларускага музея і Беларускае грамадска-культурнае таварыства — пагадненне (глядзі „Ніву" ад 10 сакавіка „Музей будзе...").

*— Што канкрэтнага дае яно Музею?*

— Гэтае пагадненне — гарантыя заканчэння пабудовы і сарганізавання Музея. Мы ўжо, папраўдзе, гэтыя дзве справы вядзем паралельна. У нас як быццам два аддзельныя прадпрыемствы, адно будаўнічае і другое — гэта ўласна Музей. Шмат праектаў патрабуе грашовых і матэрыяльных сродкаў. Ваявода абавязуецца такія сродкі расстарацца і я веру, што нашы ўлады ў крыўду нас не дадуць, а грошы будуць паступаць своечасова.

*— Пагадненне, пагодзіцеся, вельмі ж агульнае і практычна дае свабодную руку ваяводу ў вырашэнні будучыні Музея. Ён апрацоўвае статут, назначае дырэктара, прымае працаўнікоў...*

— Не, не, гэта не так. Праўда, гэтае пагадненне агульнае, але яно толькі падстава для распрацоўкі падрабязнай, аналітычнай дамовы, якая дакладна пакажа правы і абавязкі бакоў, якія пад ёю падпішуцца. Звярніце ўвагу таксама на тое, што ў пагадненні ёсць пункт, які дазваляе парвааць яго з трохмесячным папярэджаннем у выпадку незадавалення аднаго з бакоў.

*— Думаю, не на тое вы пагадненне падпісвалі, каб зараз жа яго парываць.*

— Вядома. Але такая магчымасць ёсць, калі б з'явіліся непераадольныя засцярогі. Я не сумняваюся, ці Музей будзе, ці не. Мы знаходзімся на такім этапе, што спыніць інвестыцыю немагчыма. Найбольшая крыўда, якая можа стацца Музею, гэта замаруджанне заканчэння пабудовы. Укладзеныя вялікія грошы аплацца, калі ўстанова як найхутчэй запрацуе. Я дагаварыўся з дырэктарам Бельска-падляшскага будаўнічага прадпрыемства, што калі будуць сродкі, пабудову можна будзе закончыць яшчэ ў бягучым годзе. Вядома, што калі пабудова зацягваецца, яе кошты растуць. Але, мушу зазначыць, хаця мы яшчэ не скончылі будаваць, у нас пастаянна шмат гасцей, не толькі мясцовых, але і з цэнтральнай Польшчы, і з Беларусі, і з Захаду. Ад аднаго з наведвальнікаў пачуў я нават такую назву: „Музей беларусаў усяго свету". Думаю, што яна трапная, апраўдоўваюць яе і размеры нашага аб'екта, і шчаслівае палажэнне з неабмежаваным доступам для ўсіх. У нас добры клімат, які можа прыцягнуць адпачыць, але таксама адданыя справе беларусы-патрыёты, якія рупяцца не толькі аб музеі, але і беларушчыне наогул.

*— Такую назву апраўдоўвала б і тое, што да пабудовы падключыліся беларусы з усяго свету.*

— Сродкі на інвестыцыю дзеляцца на тры, больш-менш роўныя часткі. Паводле крыніц фінансавання, гэта выглядае так: польская дзяржава, беларуская дзяржава і грамадскія ахвяраванні. Сярод ахвяравальнікаў ёсць і беларусы-эмігранты, ад якіх мы па сённяшні дзень атрымалі каля сарака тысяч амерыканскіх долараў. На нашыя патрэбы гэта невялікая сума, але яна надзвычай цэнная як сімвал адзінства беларусаў у свеце. Да нас паступалі ахвяраванні з ЗША, Канады, Аўстраліі, Бельгіі, Вялікабрытаніі, Нямеччыны і іншых краін. Неацэнны ўклад працы ўнесла грамадства Гайнаўкі і Гайнаўшчыны, сяляне, рабочыя, інтэлігенцыя. Найбольш, вядома, выпала на наш мясцовы беларускі актыў, у чалавек трыццаць. Мы ўсю цэглу разгрузілі, шмат парадкавых працаў выканалі. Зразумела, усё грамадскім чынам.

*— Колькі асоб цяпер працуе ў Музеі?*

— Восем, у тым дзве на паўштату. Адной з гэтых дзвюх асобаў з'яўляюся я сам.

*— Вы? Колькі гадзін, у Вашым выпадку, працягваецца праца на паўстаўкі?*

— Гм, напэўна больш за восем гадзін у суткі, а бывае і па дванаццаць. Я ўвечары, калі мне ў 7 гадзін не патэлефануюць, што ў Музеі ўсё ў парадку, спаць не магу. А часам прыйду, пагляджу, ці ўсё на сваім месцы. Ну, але ж мы гаворым не пра мяне, а пра Музей. Тут не адзін я пастаянна жыву пабудовай, больш такіх знойдзеце ў нашым грамадскім камітэце.

*— Які, дарэчы, паводле законаў павінен распусціцца, калі закончыцца пабудова.*

— Ён не распусціцца, а памяняе назоў з Грамадскага камітэта пабудовы на Музей і асяродак беларускай культуры. Найважнейшае, што права на ўласнасць застаецца за намі, за беларусамі. Вы, малады чалавек, таму памятайце, што мы — старыя — зрабілі ўсё, каб гэты музей паўстаў. Абавязак утрымаць яго спачывае на вас. Калі б ён перастаў быць беларускім, адказнасць за гэта таксама падзе на вас.

*— Выбачайце, спадар Майсеня, але як я магу адказваць за штосьці, дзе мяне неахвотна хочуць бачыць у будучыні і не пусцяць.*

— Ну, што вы! Я заўсёды вам рады. Ці калі вас сюды не пусцілі?

*— Вы асабіста, гэта другая справа. Я маю на думцы іншых падпісаўшыхся пад пагадненнем ды невядомых будучых гаспадароў.*

— Слухайце, мая пазіцыя такая: я мушу гаварыць з усімі, усіх хваліць, сам заставацца ў цяні. Гэта гарантуе, што маламалу справа будзе прасоўвацца дапераду. Мне моцна залежыць на тым, каб была еднасць між беларускімі актывістамі, арганізацыямі ў нас і ва ўсім свеце. Я здзіўляюся, што некаторыя нават вядомыя дзеячы не ўключыліся належным чынам у пабудову, а гэта ж агульная справа ўсяго нашага грамадства. „Ніва" нам шмат дапамагла, прапагандуючы нашу ініцыятыву таксама за мяжой. Я хацеў бы, каб рэдакцыя надалей заставалася прыхільная нам, каб працаўнікі заставаліся членамі нашага камітэта і каб вы ў кожным нумары друкавалі нумар нашага банкаўскага рахунка ды інфармавалі пра ход пабудовы.

*— Напэўна будзем рабіць тое, што і рабілі дагэтуль. Дзякуй за размову.*

Гутарыў **Мікола ВАЎРАНЮК**

*"НІВА"*

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# БЫЛОЕ — БАЛЮЧАЕ...

Сяргей ШАЎЦОЎ «КРУГ»

## КОНТР-РЭВАЛЮЦЫЙНЫ ЦЭНТР ХУТАРА ПУШЧА

Хто такі быў селянін Есіп Малашка? З беднякоў. 1891 года нараджэння. У калгасе пасвіў жывёлу. Летам статак на нейкі час бралі пад нагляд дачка і два сыны. Бацька ішоў касіць. Была свая гаспадарка, адносна заможная: карова, свінні, авечкі. Есіпу Малашку прыходзілася шмат працаваць.

У 1917 годзе ваяваў на баку бальшавікоў. Быў паранены ў нагу, застаўся інвалідам. Але – працаваў.

8 ліпеня 1938 года Есіпа Малашку арыштавала НКУС. І не толькі яго аднаго.

Усяго на хутары Пушча было 23 двары. З іх 7 выслалі (не вярнуўся ніхто), а з 16 арыштавалі 11 чалавек (вярнўся толькі 1). Адзін.

Следства прад'явіла Малашку наступныя абвінавачванні. Не ўступаў у калгас (уступіў самым першым). Дзед меў 60 гектараў зямлі і наймаў парабкаў (не каменціруецца). Польскі шпіён (стандартнае абвінавачванне тых гадоў). Травіў калгасных коней (калі бачыў, што нехта дрэнна абыходзіцца з канём, -- мог пабіць; каней вельмі любіў). Знішчаў пасевы. Артыкулы 64, 68 КК БССР.

Усіх, каго ўзялі з Малашкам, аб'ядналі ў контррэвалюцыйную арганізацыю, якая, зразумела, ставіла сваёй мэтай звяржэнне Савецкай улады, падрыў калгаснага ладу, тэракты супраць т.т. Сталіна, Варашылава, Будзённага, Молатава.

Метады допытаў былі своеасаблівыя і эфектыўныя. Следчы пераварочвалі табурэтку ножкамі ўверх, загадвалі сесці на адну з іх і закласці нага на нагу. Калі не ўседзеў, білі. Рэдка хто вытрымліваў больш месяца.

Малашка пратрымаўся 5 месяцаў. "Тройка" вынесла яму прыгавор 14 лістапада 1938 года.

26 лістапада 1938 года Есіп Малашка быў расстраляны ва ўрочышчы Курапаты, непадалёк ад таго месца, дзе пасвіў калгасную жывёлу.

Следчы, які вёў справу контррэвалюцыйнай арганізацыі хутара Пушча, памёр сваёй смерцю ў 1985 годзе ў Барысаве. У КДБ Вікторыі Есіпаўне адмовіліся назваць яго прозвішча, але яна даведалася.

## БЕЗ СТРАТ У ЖЫВОЙ СІЛЕ

Маці Вікторыі Есіпаўны памерла ў тым жа 38-м годзе. Не змагла перанесці гора. Засталіся: Вікторыя – 15 год, Віця – 12, Пеця –10 год. У дзіцячы дом іх не забралі, у турму як дзяцей ворага народа – таксама. Верагодна, вырашылі, што старэйшая сястра зможа выгадаваць малодшых.

У 1939 годзе іх хутар "узбуйнілі" – перасялілі ў пасёлак Васлава. Для перасяленцаў пабудавалі толькі каробкі дамоў, астатняе дароблівалі самі. Трое дзяцей ворага народа Малашкі падзялілі агульную долю.

Хату да розуму яны, канешне, давесці не змаглі. Падлога была земляная, а дроў не было зусім. 13-гадовы Віця і 11-гадовы Пеця ўпрагаліся ў санкі і шлі па ламачча. Яно было сырое і больш шыпела, чым гарэла і грэла. Але печка крыху награвалася. Там яны ўтраіх і бедавалі доўгімі зімовымі начамі.

Гаспадарку ім пакінулі. 13-гадовы Віця і 11-гадовы Пеця зрабілі загончык для каровы, свіней, авечак. Падатак з іх бралі па поўнай праграме, як з нармальнай сям'і. 47 кілаграмаў мяса, 120 яек, воўну, малако. Неўзабаве карову забралі па падаткі. Авечкі пайшлі туды ж.

Цяжка было без хлеба. Каб яго купіць, трэба было несці ў Мінск малако, там яго прадаваць. Хлеба ў краме давалі па кілаграму ў рукі. Станавіліся ў чаргу па некалькі разоў. Потым хлеб трэба было пранесці: на дарозе стаяла міліцыя і "лішні" хлеб адбірала. Дадумаліся абыходзіць пасты лесам. Але міліцыя здагадалася, пасты з'явіліся і там.

Ім ніхто не дапамагаў. Хто б і хацеў -- баяліся. Курапаты, яны вось тут, побач. Ніхто не хацеў паміраць.

Патрабавалася рабіць выгляд, што нічога не здарылася. Хадзіць на работу ў калгас, уступаць у камсамол, падпісваць пісьмы-падзякі таварышу Сталіну за шчаслівае калгаснае жыццё. І ўсюды трэба было быць першай. Каб не апынуцца першай у спісе на арышт.

Вікторыя ўвосень хадзіла капаць калгасную бульбу босай, абутку не было. Вельмі мёрзла. Каб сагрэцца, прабачце, мачылася на ногі.

Калі праз многа гадоў яна з братамі была ў КДБ і высвятляла абставіны гібелі бацькі, то не вытрымала і спытала маладых выхаваных (дакладней, вышкаленых) супрацоўнікаў: скажыце, чым адрозніваюцца камуністы ад фашыстаў? Тыя стрымана прамаўчалі. А тым адрозніваюцца, адказала Вікторыя Есіпаўна, што камуністы знішчалі свой народ, а фашысты -- чужы.

Браты перапужаліся: "Што вярзеш, дурная?!" Дома моцна яе лаялі. Быў 1988 год.

Як ні дзіўна, у вайну ім было лягчэй. У вайну людзі ім не баяліся дапамагаць. Апрача таго, дзецям ворага народа далі 3,5 гектара зямлі, карову, каня. Браты крыху ўжо акрэплі, так што вайну перабедавалі без страт у жывой сіле.

Пасля вайны Вікторыя Есіпаўна ва ўсіх аўтабіяграфіях пісала, што бацькі памерлі. Паступова, здавалася ёй, усё забывалася. І калі ў 60-я выпадкова трапіла ў Курапаты па ягады, то не падумала, што такімі буйнымі, сакавітымі і салодкімі ягады бываюць звычайна на магілках.

## КУРАПАТЫ

У 1988 годзе Вікторыі Есіпаўне выдалі дзяржаўнае пасведчанне аб смерці бацькі: памёр у месцах зняволення. У тыпавой кадэбэшнай даведцы было больш канкрэтна: растраляны ў Мінску. Яна спытала прама: Курапаты? Так, адказалі, Курапаты. Магчыма, дачка збірала ягады на магіле бацькі.

Яна добра памятае палахлівыя размовы пра Наронскі лес (так Вікторыя Есіпаўна ўпарта называе Курапаты). Ля Цна-Іёдкава жылі бацькавы родзічы. Прыйшлося там заначаваць, і родзічы паскардзіліся: ноччу немагчыма заснуць. Як толькі сцямнее, з боку Мінска пачынаюць ісці "чорныя вораны". Потым пачынаецца страляніна, яна ідзе з перапынкамі ўсю ноч. Чутныя крыкі: "За што?! За што?!"

## ПАПЯРЭДНІЯ ВЫНІКІ

Пасля вайны Вікторыя Есіпаўна пайшла ў людзі. Скончыла настаўніцкія курсы, вучыла дзяцей.

Выйшла замуж за франтавіка, такога ж круглага сірату і сына ворага народа. Франтавік хутка захварэў на туберкулёз, работнікам не быў. За барацьбу на франтах Вялікай Айчыннай дзяржава адвяліла яму пенсію ў 33 рублі. Вікторыі Есіпаўне прыйшлося цягнуць воз самой.

Яна ўладкавалася прадайцом у ГУМе, ішла на работу да 9, вярталася ў 11 вечара. Дзяцей з садка забіралі суседзі, дзеці чакалі бацькоў ля дзвярэй. Каб быць з дзецьмі, Вікторыя Есіпаўна перайшла ў прыбіральшчыцы.

Было і шмат іншых работ, апошняя – на аб'яднанні імя Леніна. Пенсія ў яе 526 тысяч беларускіх рублёў, ці каля 40 даляраў. Бывае горш, суцяшае яна сябе.

За некалькі месяцаў да пенсіі ёй выдалілі адразу жоўцевы пухір, кісту на нырках і ўправілі грыжу. Арганізм свой рэсурс выпрацаваў.

Што надзвычайнага ў гэтым лёсе і ў гэтай жанчыне? Усё тыпова, стандартна для нашай краіны. Есць горш, ёсць лепш. Сярэдні ўзровень апісаны вышэй.

Магло быць так: дваіх дзяцей забралі б у спецыяльныя дзіцячыя дамы, а Вікторыю з яе 15-цю гадамі -- у лагер. Дзіўна, што гэтага не адбылося. Органы не дагледзелі?

Род не сканаў, мае праця. Мог знікнуць, як зніклі тысячы і тысячы. Без вестак, без шыльдачкі.

Тыповасць яе лёсу – страшная. У нас гэтай стандартнасцю няшчасця нікога не здзівіш. Гэта само сабой. Прызвычаіліся да ўсяго. Адаптаваліся. Хто не памёр, той жыве. Хто не прапаў, той працягвае свой род.

---

КААРДЫНАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ
BELARUSIAN CANADIAN COORDINATING COMMITTEE
54 Mary St., Barrie, Ont., Canada, L4N 1T1.
Tel.: (705) 725-8654

* * *

## ПАМЯЦІ ПАКУТНІКАЎ БЕЛАРУСІ

**1-га чэрвеня, у суботу, 1996 году**

**Суродзічы Беларусы!**

Стараньнем беларусаў сьвету: Канады, ЗША, Эўропы й Аўстраліі, у 1995 годзе ў Прошчы паўночна-амэрыканскіх пакутнікаў, што ў Мідлянд, Канадзе, побач

**Беларускага памятнага Крыжа**

была ўзьнесена мэмарыяльная дошка

**Памяці ахвяр камуністычнага тэрору ў Беларусі.**

Урачыстасьць асьвячэньня Мэмарыяльнай дошкі адбудзецца **1-га чэрвеня, у суботу, пачатак а 10-ай гадзіне зраніцы.**

Адложым час і прыбудзем на ўрачыстасьці аддаць пашану памяці сотням тысяч нявінных ахвяр — беларускіх навукоўцаў, пісьменьнікаў і паэтаў, настаўнікаў, работнікаў і сялян — замучаных у савецкіх астрогах, ссыльных лягерох Варкуты, Калымы й Салаўкоў, расстраляных у Курапатах, Чалюсьцінскім парку й іншых мясцох Беларусі —

**Мы іх не забудзем!**

І прыйдзем усе засьведчыць перад сьветам наш пратэст супраць генацыду Беларускага Народу дакананага над ім камуністычным тэрорам.

З кожнае кроплі паўстане
Сіла і воля, як сталь,
Кожны з нас волатам стане,
Сэрцаў ня зломіць нам жаль!

*ЖЫВЕ БУЛАРУСЬ!*

---

## Лидер оппозиции З.Позняк не рискует возвращаться в Белоруссию

Виктор ДЯТЛИКОВИЧ, журналист ИЗВЕСТИЯ

Вот уже более двух недель за границей находятся лидеры оппозиционного Белорусского народного фронта Зенон Позняк и Сергей Наумчик. Они покинули страну сразу после того, как органы прокуратуры возбудили уголовное дело по факту беспорядков во время организованной оппозицией акции протеста против интеграции с Россией. За это время они побывали на Украине, в Чехии. В настоящее время находятся в Польше.

Власти Белоруссии, не реагировавшие на резкие заявления лидеров БНФ за рубежом, не сдержались после того, как З.Позняк сделал в Польше заявление о том, что он находится «в вынужденной эмиграции». Заместитель главы администрации президента Владимир Заметалин заявил агентству Белта, что «политическое банкротство толкает Позняка на путь откровенной и преднамеренной неправды. На самом деле ни правоохранительные органы, ни спецслужбы ни Позняка, ни Наумчика не преследуют».

В самом БНФ основания, вынудившие Позняка и Наумчика покинуть Белоруссию, считают достаточно вескими. Заместитель председателя народного фронта Винцук Вячорка в интервью «Известиям» сообщил, что в первые дни после акции 24 марта дом Позняка был оцеплен милицией. «Его ловили, и можно было ожидать незаконной расправы».

Между тем события последних дней могут укрепить намерение лидеров БНФ повременить с возвращением из Европы. В конце минувшей недели был арестован лидер радикальной белорусской организации «Правый реванш» Славомир Адамович за публикацию около года назад в витебской газете «Выбор» стихотворения под названием «Убить президента».

МИНСК.

---

## Пан Радоміньскі ўмее лічыць...

Нейкі пан А. Радоміньскі мае такую буйную фантазію, што яму аж з вушэй дыміць. Ну, няхай сабе чалавек фантазуе, але чаго лезьці з гэтым у газэты...

Вось што піша гэты цікавы чалавек: «У 1944-46 гг. (6) шэсьць з паловаю мільёнаў палякаў мусіла пакінуць родныя землі на ўсход ад Буга. Панад адзін мільён і 800 тысяч было дэпартавана на ўсход СССР. Шмат палякаў аднак засталося на тэрыторыі ўсходніх "крэсаў" II Рэчыпаспалітай... Сёньня каля чвэрці мільёна палякаў жыве ў Летуве, трохі менш на Ўкраіне і блізка мільёна на Беларусі... Сёньня на Гарадзеншчыне пражывае панад 300 тысяч палякаў, а ў самай Гародні 63 тысячы, на 6 тысяч больш як у 1939 годзе...» Цікава, як гэта спадар Радоміньскі ўхітрыўся так дакладна палічыць палякаў на Беларусі і Гародні? На пальцах, замшэлых «шчотах» ці ў сваёй фантазіі?...

к.

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



## 25-га Сакавіка ў Мельбурне, Аўстралія

На просьбу старшыні ЗБС «Бацькаўшчына», сп-ні Ганны Сурмач наладзіць цесную сувязь з беларусамі Аўстраліі і разам адсьвяткаваць 78-я ўгодкі 25-га Сакавіка, — выканаўчы камітэт Фэдарацыйнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі адгукнуўся станоўча.

Старшыня А. Груша паразумеўшыся з актывам усіх беларускіх арганізацыяў у Мельбурне, зьвярнуўся да ўсіх іншых беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі адобрыць гэтую прапанову. Пасьля адабрэньня прапановы, высылаюцца ў Менск запросіны для 5-ці асоб наведаць Аўстралію.

У Аўстралію прыляцелі, аднак, толькі 3-ы асобы з Менску, гэта: Спадарыні Ганна Сурмач, Ніна Пятухова і Таіса Леонец.

Ужо раніцай 24-га сакавіка на лётнішчы ў Мэльбурне дарагіх гасьцей спатыкае група аўстралійскіх беларусаў з бел-чырвона-белым сьцягам ды букетамі кветак...

У наступны-ж дзень адбылося сьвяткаваньне 25 Сакавіка і прывітаньне гасьцей з Бацькаўшчыны. Старшыня мясцовай беларускай арганізацыі Сп. Паўла Гуз распачаў урачыстую акадэмію. Пасьля прывітальнага слова зачытваліся прынагодныя прывітаньні, як з Бацькаўшчыны так і з іншых краін сьвету, дзе пражываюць беларусы. Асабіста прывітаў прысутных а. Міхась Бурнос. Старшыня беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі, Сп. Аўген Груша, таксама выступіў з прывітаньнем. Далей прамаўляла Спадарыня Ганна Сурмач. Яна расказала пра апошнія навіны на Беларусі. Два рэфэраты /адзін паангельску — другі пабеларуску/ выдатна дапоўнілі афіцыйную частку праграмы дня.

Трэба з прыемнасьцю адзначыць, што на сьвяткаваньні было многа моладзі. Пасьля часткі мастацкай самадзейнасьці, усе прысутныя адсьпявалі беларускі нацыянальны гімн — «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...»

У часе пачастунку, у перапоўненай залі, людзі мелі нагоду пагаварыць, сустрэцца, успомніць... Пазьней госьці адведалі магільнік, дзе спачываюць нашыя змагары за беларускае адраджэньне...

У нядзелю ў меснай царкве — сьвятая літургія і малебень за беларускі народ. Пасля Багаслужбаў ізноў прыняцьцё, мастацкая самадзейнасьць і лятарэя на падарункі для гасьцей. Спд. Ганна Сурмач яшчэ раз прамовіла да прысутных, якія слухалі яе вельмі ўважна. Усе тры госьці з Бацькаўшчыны, далі інтэрв'ю для этнічнага радыёвяшчаньня...

Прынятая Рэзалюцыя на сьвяткаваньні 25-га Сакавіка, была разаслана ў розныя ўстановы і арганізацыі...

Пазьней госьці ад'ехалі ў іншы штат вялікае Аўстраліі...

*Паўлюк Дуброўскі*

## *НЯШЧАСЬЦЕ ў СЯМ'І ВІТАЛЯ ШЧЭРБЫ*

Як мы даведаліся, Віталі Шчэрба /ведамы беларускі гімнаст/, Калядныя сьвяты правёў у лячніцы... не, ён ня быў пацыентам, гэта яганая жонка Ірына. Яна, 13 сьнежня, страціўшы кантроль свае аўтамашыны BMW урэзалася ў тэлефонны слуп і атрымала масыўныя ўнутраныя пашкоджаньні. Ірэнна ледзьледзь выжыла. Амаль месяц была непрытомнаю Пасьля першае апэрацыі, дактары давалі ёй 1 працэнт выжыць...

Сам Шчэрба быў у шоку... Будучы пад вялікім стрэсам, Віталі пачаў піць... аднак тут яго прыяцелі не дапусьцілі апусьціцца на самае дно... Адразу пасьля выпадку Віталі перастаў займацца гімнастыкай. Ён заламаўся...

А жонка Ірэна памалу выздараўлівала і неяк сказала Віталю, каб ён прадужаў рыхтавацца да Алімпіяды...

Праўда, Віталі цяпер не ў той папярэдняй кандыцыі, — ён цяжэйшы і менш мускулярны. Словам, В. Шчэрба вялікіх дасягненьняў на Алімпіядзе не чакае. Ён хацеў-бы здабыць хоць адзін залаты мэдаль...

У сакавіку 1993 году ў сям'і Шчэрбаў нарадзілася дачка Хрысьціна, а восеньню таго-ж году яны вярнуліся ў Менск. Яны моцна сумавалі па сваіх родных і блізкіх..., але пасьля таго, як ім укралі дзьве аўтамашыны, аграбілі кватэру ды інш., яны задумаліся... і канчаткова пастанавілі вярнуцца на сталае жыцьцё ў Амэрыку. Прадаўшы свой набытак сям'я Шчэрбаў пераезджае ў ЗША... Я ведаю, кажа Віталі, што па такім выпадку на Беларусі, мая жонка ніколі ня выжыла-б... Амэрыканскія лекары яе выратавалі...

*н.*

## *СЁЕ—ТОЕ...*

* Гародзенскія «нядзельныя» палякі ўзяліся за чубы... За што яны сварацца? Ды за дырэктара польскае школы Рэгіны Гулецкай. Адны за яе, другія супраць. Справа дайшла аж да Варшавы. Цікава тое, што ў гэтай школе ўсе прадметы маюць выкладацца выключна па-польску. А што робяць нашы так зв. беларускія школы-карыкатуры на Беласточчыне?

* У Менску памерла тэрарыстка Мазанік. Яна свайго часу падлажыла ангельскую магнітную міну ў ложак гітлероўскага гаўляйтэра Беларусі В. Кубэ, які ўзарваўся і загінуў. А колькі за гэта пацярпела нявінных людзей?

*Беларускае замежжа*

## Эмігранты сумуюць па Беларусі, але мала хто вернецца

*"Наша Слова"*

***Тамара Рыгораўна Новікава з ліку тых сціплых і нястомных працаўнікоў на ніве беларускай культуры, якія самаахвярнай працай набліжалі дні нашага кароткага адраджэння. Пасля заканчэння педінстытута ў 1967 г. працавала ў ПТВ, менскіх школах, навукова-даследчым інстытуце педагогікі. Апошнім месцам працы перад ад'ездам на сталае жыхарства ў Амерыку (1994) стаў Менскі інстытут удасканалення настаўнікаў. Аўтар і сааўтар дзесяткаў прац, у тым ліку дапаможнікаў для настаўнікаў, прысвечаных методыцы выкладання беларускай мовы і літаратуры ў школе. Ставіла мэту дапамагаць калегам-прадметнікам метадычнай літаратурай і выхоўваць на адпаведным дыдактычным матэрыяле нацыянальную свядомасць у моладзі. Горкі роздум пра лёс беларускай нацыі і культуры зведала ўпершыню, працуючы ў школе: абуралі адносіны школьных улад, якія праводзілі дзяржаўную палітыку, да беларускай мовы. Шараговая ўдзельніца ўсіх адраджэнскіх свят і мерапрыемстваў, такіх, як Гуканне вясны, Купалле, Дзяды, 25 сакавіка, Чарнобыльскі шлях, сходкі «Талакоўцаў», і інш. Дэлегат Устаноўчага з'езда БНФ «Адраджэньне» і дэлегат II з'езда ТБМ імя Скарыны.***

**— Тамара Рыгораўна, асабіста мне шкада, што беларуская культура страціла ў Вашай асобе шчырага працаўніка. Цяпер Вы — эмігрантка, жыхарка горада Кліўленда і маеце магчымасць назіраць жыццё беларускай калоніі, так бы мовіць, знутры. Што Вы пра яго скажаце?**

— Людзі эмігрыруюць па розных прычынах: эканамічных, сацыяльных, палітычных, асабістых. Для многіх з іх расстанне з радзімай — трагедыя, бо яны ўжо пасля не могуць наведваць родныя мясціны, сваякоў і сяброў. Для мяне такая магчымасць не страчана і переезд у Амерыку не стаў трагедыяй. Шчыра кажучы, не лічу сябе эмігранткай, бо засталася грамадзянкай Беларусі, з ёю звязана шматлікімі непарыўнымі ніцямі. Прычына майго пераезду ў ЗША асабістая: я стала жонкай Міхася Белямука з Кліўленда. Ацэньваць жыццё беларускай калоніі мне яшчэ рана. Больш магу расказаць пра тых, з кім вывучаю англійскую мову ў школе — пра так званую новую эміграцыю са статусам бежанцаў. Гэта пераважна яўрэі, баптысты, дысідэнты — былыя грамадзяне былога СССР і, у прыватнасці, Беларусі. Скажу адразу, што іх лёс незайздросны. Я не маю на ўвазе тых, хто прыязджае ў Амерыку з добрым веданнем англійскай мовы. Гэтая катэгорыя эмігрантаў можа атрымаць добрую работу і праз 4—5 гадоў набыць уласны дом. Але вельмі цяжка жыць тым, хто не ведае дзяржаўнай мовы. Мужчыны тады працуюць у горшых варунках, прыкладам, у вячэрнія змены на фабрыках або шаферамі, жанчыны — прыбіральшчыцамі ў офісах або па догляду састарэлых і дзяцей. За тую грашовую дапамогу, якую атрымліваюць ад дзяржавы ў якасці бежанцаў, яны могуць, праўда, добра харчавацца, купіць патрыманую машыну. Але на ўласную вучобу і вучобу дзяцей у прыватнай школе сродкаў, ведама, не хопіць. Гэтыя людзі сумуюць па бацькаўшчыне і па сваіх блізкіх, але вяртацца не хочуць, бо ў перспектыве ўсё ж у іх лепшае жыццё. Іх дзецям пры ўмове, што яны старанна вучацца, дзяржава дапамагае бясплатна набываць адукацыю ў каледжах, атрымліваць розныя прафесіі.

**— Па якому прынцыпу складваюцца эміграцыя асяродкі?**

— Эмігранты групуюцца па нацыянальнай прыналежнасці або па прыналежнасці да пэўнай рэлігіі: беларусы трымаюцца беларусаў, в'етнамцы — в'етнамцаў, яўрэі — яўрэяў, баптысты — баптыстаў і г.д. Што да беларускай пасляваеннай эміграцыі, то яе гісторыю добра ведае мой муж, які заснаваў кліўлендскую калонію суродзічаў. Не многія з гэтых людзей атрымалі добрую адукацыю і сталі заможнымі людзьмі. Ёсць мільянер Лук'янчык, добра жывуць тыя, якія скончылі каледжы і універсітэты, а затым працавалі ў багатых кампаніях, напрыклад, на заводзе Форда. Але такіх беларусаў у Кліўлендзе няшмат.

Групуюцца нашы суайчыннікі вакол царквы Жыровіцкае Божае Маці і культурна-асветніцкага цэнтра «Полацак». Кожную нядзелю прыхаджане бачацца ў царкве. Але ў храме людзі не толькі моляцца, а і ладзяць угодкі нацыянальных свят (напрыклад, Слуцкага паўстання, Грунвальдскай бітвы), сустрэчы з гасцямі, адзначаюць вялікія царкоўныя святы (Каляды, Вялікдзень і інш.). У такіх выпадках пасля царкоўнай службы ў падцаркоўнай зале адбываюцца пачастункі і так званая акадэмія. Масавыя мерапрыемствы праходзяць у цэнтры «Полацак» ва ўрачыста прыбранай зале, дзе збіраецца за 200 гасцей. У «Полацку» праходзяць міжнародныя з'езды і сустрэчы, адзначаецца свята 25 сакавіка, ладзяцца навагоднія карнавалы.

**— Ці працуе беларуская школа ў Кліўлендзе?**

— Была такая школа пры царкве. Аднак пасля таго, як змяніўся святар, яе не стала. Засталася толькі ўкраінская гімназія.

**— Якой Вы бачыце сваю будучыню ў Кліўлендзе?**

— Ад'язджаючы ў Амерыку, я мела намер працаваць у часопісе «Полацак» — выданні, заснавальнікам і фундатарам якога з'яўляецца мой муж. У мяне ёсць вопыт навуковай працы, ёсць веды, і я збіралася працягваць працу на карысць беларускай культуры. Аднак здарылася непрадбачанае: Міхась Белямук быў выкінуты з рэдакцыйнай калегіі і ўдадатак да ўсяго абдураны супрацоўніцай з новых эмігрантаў. Дзякуючы гэтай акцыі, якую можна ўмоўна назваць «чалавечая няўдзячнасць», мы з мужам страцілі магчымасць працаваць у часопісе. Сёння я бачу для сябе іншы шлях: далучыцца да працы мужа, які займаецца сфрагістыкай, нумізматыкай, геральдыкай і дойлідствам Беларусі. У адной са сваіх публікацый я, дарэчы, выкарыстала выдатны тэкст Белямука, прысвечаны Каложскай царкве ў Гародні. Муж піша ўспаміны, пачатак якіх друкаваўся ў «Полацку». З майго пункту гледжання яны цікавыя і каштоўныя, паколькі асвятляюць гісторыю беларускай эміграцыі, падаюць факты і звесткі пра дзейнасць беларускага замежжа. Хачу далучыцца да гэтай працы ў якасці рэдактара -стыліста.

**— Мне вядома, што Вас са спадаром Белямуком абручаў мітрапаліт Філарэт і з гэтага часу Вы з Уладыкам падтрымліваеце знаёмства. Вы і цяпер з ім сустракаліся?**

— Я сустракалася з мітрапалітам ужо двойчы пасля таго, як выехала з Беларусі. Раблю гэта па даручэнні мужа, які перадае для праваслаўных цэркваў ладан і просіць памаліцца за беларусаў, што жывуць за акіянам, а таксама памаліцца за Беларусь, каб яна пераадолела цяжкі эканамічны крызіс і захавала незалежнасць. Гэта Уладыка і зрабіў у маёй прысутнасці. Памаліўся.

У выніку абмену, які існуе паміж бібліятэкай Белямука і нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, мы атрымалі кнігі з серыі «Наши духовные ценности» на расійскай, беларускай і англійскай мовах з прадмовай мітрапаліта Філарэта. Гэта выдатнае выданне, беларускае дойлідства асвятляецца на яго старонках аб'ектыўна.

**— І Вы падзякавалі, мабыць, мітрапаліту Філарэту за яго працу над серыяй?**

— Падзякавала, тым больш, што атрымала ад яго ў падарунак кнігі «Праваслаўныя святы» і «Праваслаўнае дойлідства». Мы з мужам вельмі ўсцешаны яшчэ і тым, што гербам Беларускай праваслаўнай царквы стаў Крыж Ефрасінні Полацкай.

**— Што Вам найбольш прыгадваецца з мінулага?**

— Апошнія гады, апошнія падзеі. Усё, што адбывалася пасля восемдзесят пятага

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



года: як захаплялася творчасцю Караткевіча, як распаўсюджвала самвыдатаўскую літаратуру, сустракалася з Мікалаем Ермаловічам і людзьмі з аргкамітэта БНФ, наведвала вечарыны ў Доме літаратара, прысвечаныя лепшым сынам Беларусі, наведвала універсітэт і тэатральна-мастацкі інстытут, дзе ладзіліся сустрэчы адраджэнцаў з грамадскасцю, наведвала лекцыі Міхася Ткачова, Міхася Чарняўскага, Зянона Пазьняка, Юрыя Хадыкі, ездзіла ў Ракуцёўшчыну на свята Багдановіча і ў Вязынку на Купалле. Быў час, калі даводзілася адначасна працаваць у Менскім інстытуце ўдасканалення настаўнікаў, у Політэхнічнай акадэміі — ў групах, якія фармаваліся з прафесарска-выкладчыцкага складу, і ў Міністэрстве замежных спраў, дзе міністрам Пятром Краўчанкам былі арганізаваны курсы беларускай мовы для супрацоўнікаў. Працавала я тады па 10—12 гадзін у дзень. Для мяне выкладанне беларускай мовы было свядомым актам патрыятызму, бо абурала вайна з «нацыяналістамі», абураў вандалізм, з якім паўсюдна знішчаліся беларускамоўныя асяродкі.

**— І тады, у час найвялікшага прасвятлення, Вы звярнуліся да Бога?**

— З вялікай любоўю да Яго прыйшла. А ўпершыню спавядалася ў ксяндза Яна Матусевіча, святара уніяцкай царквы, у якога бывала дома. Ён гуртаваў вакол сябе моладзь, а прыцягваў сваёй эрудыцыяй, беларускасцю, нацыянальнай свядомасцю.

**— Дзякую, Тамара Рыгораўна, за гутарку, зычу поспехаў у здзяйсненні творчых задум, а таксама асабістага шчасця.**

**Распытвала Ірына КРЭНЬ.**



# З КРАІНЫ САВЕТАЎ -- У САВЕТ ЕЎРОПЫ. А НАВОШТА?

«К Р У Г»

Валер КАЛІНОЎСКІ

**Пасля афіцыйнага прыняцця Расіі ў склад Савета Еўропы, якое адбылося ў лютым 1996 года, ля ўвахода ў Палац Еўропы ў Страсбургу развяваецца ўжо 39 дзяржаўных сцягоў краін-членаў гэтай арганізацыі.**

**Кандыдатамі на прыняцце ў Савет Еўропы застаюцца толькі Харватыя (з 11.09.92), Беларусь (з 12.05.93) і Боснія-Герцагавіна (з 10.04.95). У параўнанні з ваюючымі балканскімі краінамі Беларусь, натуральна, мае пераважныя шанцы на прыняцце першай. Тым больш пасля далучэння да СЕ Расіі -- краіны, далёкай ад дасканаласці адносна еўрапейскіх прававых нормаў. Аднак членства ў Савеце Еўропы нам трэба яшчэ дабівацца, прычым не так, як рабілася гэта раней. Патрэбны пазітыўныя перамены ва ўнутранай і знешняй палітыцы Беларусі.**

## ШТО ТАКОЕ САВЕТ ЕЎРОПЫ?

Старэйшая (існуе з 1949 года) і найшырэйшая арганізацыя на кантыненце, Савет Еўропы, пераўтварылася са структуры, што спрыяла пераадоленню бар'ераў паміж дзяржавамі Заходняй Еўропы пасля другой сусветнай вайны, у арганізацыю, што ліквідуе наступствы так званай халоднай вайны ў цэлай Еўропе. У яе складзе 15 экскамуністычных дзяржаў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, 6 з іх – постсавецкія: Літва, Эстонія, Латвія, Малдова, Украіна, Расія.

Новая роля Савета Еўропы на кантыненце была падмацавана спецыяльным палітычным мандатам, прынятым у кастрычніку 1993 года на венскім саміце кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін-членаў СЕ. Тады была вызначана задача СЕ спрыяць дэмакратычнай бяспецы на кантыненце, заснаванай на захоўванні правоў чалавека, дэмакратыі і прынцыпаў прававой дзяржавы. Рэалізоўваецца гэтая палітыка на аснове больш як 150 еўрапейскіх канвенцый і хартый, якія абавязваюцца выконваць усе дзяржавы, што іх падпісалі. Важнейшыя з гэтых канвенцый датычаць абароны правоў чалавека, падтрымкі нацыянальных меншасцей, мясцовага самакіравання, барацьбы супраць арганізаванай злачыннасці, культурнага супрацоўніцтва і інш.

Як бачна, вялікай ролі ў вырашэнні чыста эканамічных праблем СЕ не адыгрывае, аднак відавочна, што прадстаўнікі ўрадаў краін Усходняй Еўропы, імкнучыся ў Савет Еўропы, перш за ўсё звязваюць з членствам у СЕ надзеі на паскарэнне эканамічнай інтэграцыі з Еўропай, рост інвестыцый. Такі пункт гледжання выказаў і кіраўнік беларускай парламенцкай дэлегацыі на студзеньскай сесіі Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы, віцэ-спікер Юрый Малумаў. Гэтыя надзеі цалкам правамерныя, бо да краін, якія прызналі і імкнуцца выконваць агульнапрынятыя нормы ў галіне дэмакратыі і абароны правоў чалавека, у інвестараў больш даверу. Да таго ж вядома, што ні адна з 15 краін Еўрапейскага Саюза не мінула ў свой час працэдуры далучэння да Савета Еўропы. Таму відавочна, што і беларускі шлях да вольнага свету – шлях у Еўропу – ляжыць праз гэтую арганізацыю.

## БЕЛАРУСЬ І СЕ

Беларусь прадставіла сваю заяўку на прыняцце ў Савет Еўропы 12 мая 1993 года. Раней, 16 верасня 1992 года, наш Вярхоўны Савет атрымаў статус спецыяльна запрошанага ў Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ). Да 1995 года шанцы Беларусі на ўступленне ў СЕ ацэньваліся дастаткова высока, прынамсці не ніжэй, чым у Малдовы, дзе існаваў прыднястроўскі канфлікт, ці Украіны, якая яшчэ не мела сваёй новай Канстытуцыі. Аднак пасля няўдалых выбараў Вярхоўнага Савета ў маі 1995 года, пасля шматлікіх фактаў парушэнняў заканнасці і прынцыпу падзелу ўлад у нашай краіне Беларусь аказалася на перыферыі ўвагі СЕ. Няма парламента – няма з кім супрацоўнічаць. Так канстатавалі пасля майскіх выбараў назіральнікі ад Савета Еўропы.

Тым часам, летам 1995 года, ў гэтую арганізацыю была прынята Малдова, восенню – Украіна, зімой – Расія. І хоць рашэнне аб прыняцці ў склад СЕ Расіі трэба ацэньваць хутчэй за ўсё як палітычны крок Захаду напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у РФ, што, дарэчы, не хавалі і многія парламентарыі ў Страсбургу, -- гэтая падзея істотна наблізіла і прыём Беларусі ў СЕ. Цяпер са Страсбурга прыглядаюцца да таго, як пачаў сваю працу новы Вярхоўны Савет Беларусі, як складваецца ў нас палітыка-прававая сітуацыя ў цэлым.

Як зазначыла ў канцы студзеня гэтага года новы Прэзідэнт Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы Лені Фішэр, праблема прыняцця Беларусі стаіць на парадку дня, але каб падыйсці да яе канчатковага рашэння, трэба будзе шмат зрабіць -- і асноўным структурам СЕ, і дакладчыкам па праблеме прыняцця Беларусі, і, відаць, у першую чаргу беларускаму кіраўніцтву.

Прадстаўнікі Вярхоўнага Савета і ўрада Беларусі П. Краўчанка, М. Грыб, У. Русакевіч выказваюць спадзяванне, што наша заяўка будзе разгледжана ў канцы бягучага – пачатку наступнага года. Прыём Расіі ў СЕ яны расцэньваюць як дадатковыя галасы ў падтрымку членства Беларусі. Расіяне, будзем спадзявацца, сапраўды ў большасці падтрымаюць нашу заяўку.

Відавочна, што будзе ў ПАСЕ і іншая пазіцыя. Да прыкладу, члены Парламенцкай Асамблеі Вячаслаў Чарнавіл (Украіна) і Лешэк Мачульскі (Польшча) лічаць, што час прыёму Беларусі ў Савет Еўропы яшчэ не надышоў -- "у сувязі з пэўнымі падзеямі ў вашай краіне". Гэтыя два парламентарыі прадстаўляюць у ПАСЕ групу народных партый, правае крыло Асамблеі, якое, відавочна, будзе сур'ёзнай перашкодай лёгкаму руху заяўкі Беларусі. І не варта на іх крыўдзіцца – падставу для такіх адносін да нас далі мы самі.

Важнай будзе і пазіцыя дакладчыкаў СЕ па праблеме прыёму Беларусі. Адзін з іх – Гунар Янсан (Фінляндыя) – ужо не аднойчы бываў у нас і ў апошняй сваёй справаздачы аб леташніх асенніх парламенцкіх выбарах у Беларусі быў дастаткова крытычным як да нашага выбарчага заканадаўства, так і да ходу выбарчай кампаніі, ролі ў ім выканаўчай улады, свабоды сродкаў масавай інфармацыі. Такім чынам, у Савеце Еўропы добра вядомыя нашы хібы і недасканаласці, цяжкасці станаўлення дэмакратыі і прававой дзяржавы, якія працуюць не на карысць іміджу Беларусі.

Урад з мэтай паскарэння прыняцця Беларусі ў Савет Еўропы стварыў спецыяльны Міжведамасны савет па супрацоўніцтву з СЕ, яго ўзначаліў віцэ-прэм'ер У. Русакевіч. Паводле слоў апошняга, гэты Савет актыўна працуе над праблемамі далучэння Беларусі да еўрапейскіх канвенцый, падтрымлівае кантакты са штаб-кватэрай СЕ ў Страсбургу.

## ПАТРАБАВАННІ ДА КАНДЫДАТАЎ

Працэдура прыняцця і першыя месяцы працы ў Савеце Еўропы Малдовы, Украіны і Расіі даюць Беларусі добры вопыт інтэграцыі ў гэтую арганізацыю і нагадваюць нам аб тых жорсткіх патрабаваннях, якія прад'яўляюцца Саветам Еўропы да краін-кандыдатаў. Тыя недахопы, якія выяўлены ў Расіі ці Украіне, натуральна, у многім характэрныя і для Беларусі.

Выступаючы па праблеме прыняцця Расіі, дакладчык ад камісіі па юрыдычных пытаннях ПАСЕ Рудольф Біндзіг зазначыў наступныя яе недахопы: не прыняты новы крымінальны кодэкс; не заўсёды выконваецца заканадаўства; ФСК дзейнічае старымі метадамі, уласцівымі КДБ, у тым ліку затрымлівае грамадзян; пракуратуры прадастаўлена залішне многа ўлады; дрэнныя ўмовы ў турмах, бываюць нават катаванні; у войску зашмат смяротных выпадкаў і нестатутныя адносіны; не адменена смяротная кара...

Згадзіцеся, усё гэта ўласціва і Беларусі, і толькі чачэнская вайна ў Расіі робіць нашу краіну больш прывабнай. З другога боку, Р. Біндзіг зазначыў як станоўчыя зрухі ў Расіі дасягнутую там свабоду слова, рэлігій, арганізацый. У нас жа і тут ёсць праблемы. У цэлым пры прыняцці Расіі ў Савет Еўропы ёй былі выказаны дзесяткі рэкамендацый адносна прававой рэформы, захавання правоў чалавека, мясцовага самакіравання. Расійская Федэрацыя мусіць выканаць усе патрабаванні СЕ.

--Членства Расіі ў Савеце Еўропы будзе суправаджацца і падтрымкай, і ціскам ў адносінах будаўніцтва прававой дзяржавы і абароны правоў чалавека, -- зазначыў прадстаўнік Вялікабрытаніі ў ПАСЕ сэр Рассел Джонстан.

Гэта значыць, што нават ідучы на ўступкі палітычным меркаванням пры прыёме Расіі і некаторых іншых недасканалых у заходнееўрапейскім разуменні краін, Савет Еўропы мяркуе дабівацца выканання там сваіх патрабаванняў постфактум, клапоцячыся пра рычагі такога ўплыву. Беларусь прыкладна на такім жа ўзроўні, як і Расія, недасканалая ў многіх юрыдычных і праваабарончых аспектах. Але мы не маем поўнай гарантыі, што Еўропа будзе мець пільную палітычную патрэбу прыняць нас, як і Расію, занадта недасканалымі.

## ШТО ДАЕ ЧЛЕНСТВА?

Такое пытанне з'яўляецца лагічным, калі мець на ўвазе, якіх вялікіх намаганняў каштуе дабіцца ўступлення ў Савет Еўропы. Відавочна, што гэтае членства сапраўды выгаднае, калі нашы суседзі так імкнуліся туды ўступіць.

--Галоўны інтарэс Расіі ва ўступленні ў Савет Еўропы – уключэнне ў новыя палітычныя рэаліі пасляблокавага свету, ажыццяўленне дэмакратычных пераўтварэнняў і жаданне інтэграцыі ў Еўрасаюз, -- зазначыў дэпутат Дзярждумы Расіі Уладзімір Лукін на прэс-канферэнцыі пасля прыняцця Расіі ў Савет Еўропы на спецыяльным пасяджэнні яго Парламенцкай асамблеі.

--Прысутнасць Украіны ў Савеце Еўропы – гэта безумоўнае прызнанне яе як прававой дэмакратычнай дзяржавы, якая больш прагназіруемая і для інвестараў... Акрамя таго, гэта дае нам у пэўнай ступені і гарантыі тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны, недатыкальнасці яе межаў, -- зазначыў кіраўнік украінскай дэлегацыі ў ПАСЕ Барыс Алейнік. – Урэшце рэшт гэта проста прэстыжна для дзяржавы.

Прабіць акно ў Еўропу, увайсці ў эканамічнае і палітычнае супрацоўніцтва з Захадам, выказваць і адстойваць інтарэсы сваёй дзяржавы на сусветным узроўні -- несумненна, ўсяму гэтаму спрыяе членства ў СЕ.

Савет Еўропы як праваабарончая арганізацыя, пры якой існуе Камісія і Еўрапейскі суд па правах чалавека, карысная звычайным грамадзянам дзяржаў-членаў СЕ. Яны маюць права звяртацца ў гэтыя праваабарончыя структуры пры ўмове, калі іх не задавальняюць нацыянальныя суды. Пры абмеркаванні той жа расійскай заяўкі парламентарыі ПАСЕ неаднаразова падкрэслівалі, што Расію трэба прыняць не столькі дзеля яе прэзідэнта, не дзеля яе кіруючай вярхушкі, а дзеля яе грамадзян, народа ў цэлым, які заслугоўвае лепшай долі, якому патрэбны рух да прававой дзяржавы, цывілізаваных свабод і норм грамадзянскай супольнасці. Усведамленне гэтага павінна быць адным з галоўных стымулаў для ўступлення ў Савет Еўропы і Беларусі. Аднак беларускае кіраўніцтва адносіцца да СЕ спецыфічна.

Юрый Малумаў, які ўжо ўпаміналася, дапускае магчымасць пазбаўлення грамадзян Беларусі права прамога звароту ў Еўрапейскі суд па правах чалавека, як гэта ўжо зроблена ў адносінах да грамадзян Турцыі. Хочацца верыць, што такое меркаванне не з'яўляецца пераважным на беларускім алімпе, што большасць урадоўцаў і парламентарыяў разумеюць карысць для народа Беларусі членства ў СЕ, неабходнасць патрабаванняў СЕ да дэмакратызацыі жыцця ў Беларусі. Калі нашыя дзяржмужчыны не разумеюць гэтага – яны яшчэ не ўсвядомілі адрозненне краіны саветаў ад Савета Еўропы.

*Страсбург – Мінск*

---

## Спраставаньне:

У папярэднім № нашае газэты ў апісаньні «25-га Сакавіка ў Чыкаго», апошнія два радкі трэба чытаць так: "Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкаго, сьвяткаваць 25-га Сакавіка будзе ў нядзелю 28-га красавіка 1996 г."

Рэд.

Да ўвагі нашых чытачоў:

Усе матэрыялы прызначаныя для друку мусяць быць у рэдакцыі 2 тыдні перад друкам газэты. І так, калі матэрыял прызначаецца да друку ў чэрвеньскім № газэты, ён павінен быць у рэдакцыі ўжо 15 мая.

Усе матэрыялы да друку мусяць быць толькі ў арыгіналах. Дзякуем!

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



IN MEMORIAM

Сьвятой † Памяці

## ПАВАЛ БРУШКЕВІЧ



7-га сакавіка 1996 г. адыйшоў у вечнасьць, на 83-м годзе жыцьця Павал Брушкевіч. Нябожчык Павал пакінуў у смутку жонку Анну, дачок Люсю і Гэлену, сына Робэрта ды ўнука Томмі. Павал Брушкевіч памёр ціха і раптоўна ў сваім доме ў прысутнасьці жонкі і дачкі Люсі.

У часе візытацыі цела нябожчыка, у пахавальным доме «Музыка і сын», сабралася ладная група знаёмых сям'і Брушкевічаў. Было многа кветак. На пакрышцы дамавіны з сярэдзіны віселa стужка з бел-чырвона-белым сьцягам, які нябожчык заўсёды верна і годна нёс рэпрэзэнтуючы Беларусь. Падчас візытацыі стаяў ля дамавіны мантаж фотаграфіяў з жыцьця нябожчыка і яго сям'і.

Пахавальны абрад, 9-га сакавіка, выканаў а. Вячыслаў Ільчук. Пасьля паніхіды коратка прамаўлялі Мікола Латушкін і Вера Рамук, якая ведала нябожчыка яшчэ з лагера ў Нямеччыне. Пасьля пахаваньня сям'я Сьв. Пам. Паўла запрасіла ўсіх прысутных на памінальны абед.

Нарадзіўся пакойны Павал 18-га лістапада 1913 году ў Палаўковічах, Клецкага раёну. Сваю асьвету Павал здабыў у Клецку. Пасьля службы ў польскім войску ён працаваў у малачарні. У гады савецкай і нямецкай акупацыі быў сакратаром на почце і належаў да пажарнае аховы.

У кастрычніку 1943 г. Павал ажаніўся і ўжо ў 1944 г. сям'я выязджае на захад. Канец вайны застаў Брушкевічаў у Нямеччыне. Далей жыцьцё ў лагерах, розныя пераезды і канчатковае прыстаніщча ў 1957 г. у ЗША. Сям'я Брушкевічаў пасялілася ў Чыкаго, дзе пакойны адпрацаваў да свае пэнсіі ў 1977 г. у газэце «Чыкаго Трыбюн».

Сьв. Пам. Павал Брушкевіч быў вельмі скромным чалавекам, вялікім беларускім патрыётам і незалежнікам.

Хай стойкі змагар за Беларусь, за праўду, свабоду і справядлівасьць сьпіць спакойным сном на вольнай зямлі Вашынгтона.

Хай сьніцца яму любая, сінявокая Беларусь, а памяць аб ім будзе вечна жыць у сэрцах тых, хто яго ведаў за жыцьця.

Вечная Памяць!!!

Вера Рамук

**Лідэр фракцыі «Грамадзянскае дзеянне» ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ** лічыць, што некарэктна параўноўваць прапануемы расійска-беларускі саюз з Еўрасаюзам:

— Еўрасаюз ствараўся павольна, шляхам натуральнага ходу гісторыі ў імя перш за ўсё эканамічных інтарэсаў, на базе наяўнасці глыбокай дэмакратыі ва ўсіх гэтых краінах. Нашы ж правіцелі хочуць злучыць нас з краінай ваюючай, карумпаванай, дзе капіталізм развіваецца ў горшым варыянце. З краінай, дзе разбураюцца ў Чачні гарады і вёскі, дзе мноства нявырашаных праблем, дзе па пяць месяцаў не выплачваецца зарплата, дзе адсталыя тэхналогіі і тэхніка, зношанае абсталяванне. Я магу зразумець імкненне людзей уз'яднацца з дабрабытам, але аб'ядноўвацца з галечай — цяжка зразумець логіку гэтых дзеянняў.

**— Але ці лепшая наша краіна?**

— Наша краіна павінна браць прыклад з бліжэйшых суседзяў і кіравацца здаровым сэнсам. Я не магу сабе ўявіць, каб нармальны чалавек не імкнуўся ўз'яднацца з тымі, хто можа даць яму свабоду, дабрабыт, законнасць, нармальныя ўмовы вучобы, жыцця, як гэта робіцца ў Чэхіі, Венгрыі, Польшчы, Літве.




## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Паважаны Сп. Прускі!

Шчыра дзякую за газэту. У залучэньні перасылаю ахвяру на выдавецкі фонд.

Апошні № газэты які я атрымаў, быў за месяц люты. Прашу Вашай ветлівасьці даслаць мне далейшыя паасобнікі газэты, за што буду ўдзячны.

З пашанай да Вас, У. П.

*Апошнім часам наша почта пачала кульгаць... Мы стараемся каб справы наладзіць. Газэты высылаем... Дзякуем за ахвяру.*

Высокапаважаны Спадар Прускі!

У залучэньні перасылаю ахвяру на выдавецкі фонд газэты. Прабачце за спазьненьне. Меў нясчасны выпадак... Вашу газэту сапраўды міла чытаць.

Жадаю Вам і сямейцы добрага здароўя і далейшага посьпеху на выдавецкай ніве.

З пашанай, М. К.

*Дзякуем за ахвяру і жадаем Вам таксама ўсяго найлепшага.*

Дарагі Мікола!

Каб хоць крыху дапамагчы газэце, перасылаю хоць скромную ахвяру. Няхай Усемагутны Бог дасьць многа здароўя і сілаў у так карыснай працы для дабра Беларусі і яе шматпакутнага народу. Жыве Беларусь!

Б. Д.

*І Вам, са свайго боку, жадаем многа здароўя, сілы і маладой бадзёрасьці. За ахвяру дзякуем.*

Дарагі Сп. Прускі!

Надыйшоў час дапамагчы нашай сьціплай газэце. Трэба выпаўніць свой абавязак. Жадаю Вам усяго найлепшага ў працы для нашага народу і Бацькаўшчыны — Беларусі. Залучаны чэк — гэта ахвяра ад мяне і Н. В. У. Р.

*Шчыра дзякуем і жадаем усяго найлепшага.*

Dear Mr. Prusky!

Enclosed is donation as payment for my subscription to *Belarusian Digest*.

Thank you for the informative and entertaining articles. I look forward to each issue and thoroughly enjoy reading every page!

Sincerely, N. M.

*Дзякуем за цёплыя словы і ахвяру.*



## ЗДРАДА

"Круг"

З перапісу вынікае, што на 100 тысяч грамадзян кожнай нацыянальнасці дактароў навук сярод беларусаў -- усяго 6 чалавек, расейцаў жа – 33 чалавекі, іншых нацыянальнасцей – 34 чалавекі.

Тое ж з колькасцю кандыдатаў навук.

Беларусаў і тут усяго – 93 чалавекі, расейцаў жа – 398 чалавек, іншых нацыянальнасцей – 296 чалавек.

Дадам, што сярод мастакоў беларусы складаюць усяго – 52%, у Саюзе кампазітараў -- 42%, у Саюзе кінадзеячоў -- толькі 31%, выкладчыкаў ВНУ -- 56%...

Расейскія камуністы, прыпёршыся на Беларусь, узялі за моду мачыцца і сяліцца са скацінай у нашых цэрквах, касцёлах, палацах...

Роль белых насіллем, абманам і тэрорам захапілі расейцы, роль каляровых яны аддалі прадстаўнікам іншых нацыянальнасцей...

І як паказвае апошняе стагоддзе, у нас не было і няма больш бессаромных ворагаў, як расейцы. І на вялікі жаль, і дэмакратычная Расея вядзе ў адносінах да нас тую ж палітыку, як і царская Расея і Расея камуністаў.

І карысна ўспомніць гісторыю беларусаў гэтага стагоддзя. Зноў нас расейцы дзялілі з рознымі немцамі, палякамі і г.д. У гэтых дзеляжах яны забівалі беларусаў, прымушаючы нас ваяваць на сваім баку. У вайне 1939-1945 гадоў загінуў кожны чацвёрты, нас гналі прама на кулі, не шкадуючы. Нішчылі ў мірны час.

Закончыўшы "пераможную вайну", мы згубілі Беластоцкую вобласць, заселеную беларусамі. Нідзе ў свеце няма такога прыкладу. Пасля вайны расейцы абвясцілі нас "неполноценными", таму што мы былі ў акупацыі. А самі драпалі ад немцаў, толькі абмоткі целепаліся.

Аб'явіўшы беларусаў "неполноценными", пачалі высяляць нас з нашай замлі пад рознымі зачэпкамі ў неабжытыя месцы імперыі, а сюды прыпіраліся расейцы, каб паесці хоць добра бульбы з салам і атрымаць пасады. Нас не выпускалі з ярма. Тут яны абапіраліся на гультаёў, злодзеяў, даносчыкаў і курапацкіх гіцаляў, якім дазволена было ўступаць у кампартыю і наглядаць за намі. З іх дапамогай нішчылася наша культура, мова, звычаі, мараль...

Тым расейцам, каму папярок горла наша незалежнасць, Нейтралітэт, мова, лепш выехаць з Беларусі. Расея вялікая, а мы торбу збяром на дарогу.

Павінны быць уведзены квоты на назначэнне на пасады беларусаў у прапорцыі, як гэта беларусы складаюць ад ліку насельніцтва на Беларусі.

**А. БЛІНКОЎСКІ,**
**БСДГ (Грамада)**

Dear Mr. Prusky!

Please excuse the delay in replying to your request regarding my interest in continuing to receive the Belarusian Digest.

After many months of putting issues of the Digest aside to be read later, I had to reply to your question by actually reading the newspaper. I have to admit, I read the English article first and then the Belarusian articles, in which I found many words new to me. This is my explanation of not reading the previous issues which I have carefully kept.

Having read most of the issue, rather than just looking at the pictures, I am happy to be among your readers. And with the enclosed donation, a «subscriber».

To paraphrase an Irish blessing: «May the wind be always at your back and your road be always downhill» in putting out the Belarusian Digest.

Yours, W. (B.) S.

*Як кажуць: лепш позна, чым ніколі. Дзякуем за ліст і ахвяру.*

Паважаны Сп. Прускі!

...Вашая газэта трымае мяне на духу. Дзякуй за так патрэбную і добрую працу на карысьць нас усіх — прыніжаных і плаксівых беларусаў. Хацелася-б бачыць «Беларускі Дайджэст» на 12 старонках кожны выпуск. Што гэтаму перашкаджае?

А цяпер хачу зрабіць заўвагу да артыкулу Ніла Гілевіча «Усё будзе залежыць ад таго, ці...» у № 4(28) Беларускага Дайджэсту. Спадара Ніла я моцна паважаю і люблю як сапраўды адважнага, разумнага і стойкага патрыёта нашага народу. Перад ім я схіляю маю галаву... Але з адным выказваньнем ў гэтым артыкуле паважанага Ніла я абсалютна не пагаджаюся, калі ён піша «...Наш народ ніколі сьпіною да брацкага рускага народу не павернецца.» Са словам «брацкі» ў мяне паўстаюць пытаньні... На маю думку, беларусы павінны павярнуцца да «такіх братоў» ня толькі сьпіною, але часткаю цела ніжэйшаю за сьпіну. Перапрашаю за шурпатасьць, але гэта маё моцнае меркаваньне...

Далучаю ахвяру на сапраўды цікавую газэту. З пашанай, С. М.

*Пра выдаваньне газэты на 12 старонках я ўжо пісаў. Выдаваць можна, але на гэта патрэбныя грошы (дадаткова 250 даль.) і сякая-такая дапамога з матэрыялам. Але надзеі траціць ня трэба. Дзякую за ахвяру і жадаю ўсяго найлепшага.*

* * * *

На запытаньні, ці асобы пражываючыя на Беларусі ды ў іншых краінах сьвету могуць пісаць у "Беларускі Дайджэст" адказваю: Так, могуць...

Добры дзень Спадар М. Прускі!

Да Вас піша В. С. Вашу газэту «Беларускі Дайджэст» чытаю ўжо два гады. Атрымліваю яе ад свайго дзядзькі з Англіі. Лічу Вашу газэту вельмі шчырай, праўдзівай і чысьцюткай. Зычу Вам моцнага здароўя, шчасьця і посьпехаў ва ўсіх Вашых справах.

Пры гэтым дасылаю інфармацыю і здымак. Ён зроблены на радзіме нашага славутага земляка Тадэвуша Касьцюшкі ў мястэчку Марачоўшчына каля Косава. Падзеі адбыліся 4-га лютага 1996 г. з нагоды 250-годзьдзя народзін героя. Быў шматлюдны (каля тысячы чалавек) мітынг. Прысутнічалі дэлегацыі многіх местаў, у тым ліку Бярэсьця, Менску, Слоніма і Гардні...

Пакуль да пабачаньня. В. С.

*Прыемна даведацца, што наша газэта трапляе тым ці іншым шляхам у розныя куткі сьвету. Дзякуем за ліст, і дзякуем Вашаму дзядзьку за распаўсюджваньне нашае газэты. Фота зьмяшчаем.*



© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018